PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (2009) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 13 ЛІСТАПАДА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## Падарожжа ў Арэшкава

З Гайнаўкі ў Арэшкава 8 кіламетраў. Сяло знаходзіцца на акраіне Белавежскай пушчы.

— У Орышкові мнуго молодых люды, — паясняе мне напатканая жанчына.

Самая вёска адбудаваная і дагледжаная. У канцы віднее двухпавярховы будынак школы з кватэрамі для настаўнікаў. Аднак амаль усе яны даязджаюць з Гайнаўкі.

— Нядаўна праводзіўся грунтоўны рамонт будынка. У нас вельмі заангажаванае грамадства. У аднаўленні школы ўдзельнічалі ўсе бацькі. 1 верасня мы пачалі працаваць у свежым, аднаўленым будынку, — гаворыць дырэктар школы Тамара Крайнік.

— Галоўнай праблемай з'яўляецца тое, што вёскі паміраюць. Сёння ў нас 90 вучняў. Вялікая частка іх паходзіць з навакольных вёсак. Хутка аднак астануцца толькі дзеткі з Арэшкава. Тут якраз шмат маладых сем'яў. Дзяцей у школу давозім аўтобусам. На індывідуальныя даезды бацькі часта не маюць грошай. У школе можна таксама купіць булку і гарачыя напіткі. Многія дзеткі, што даязджаюць, свабодны час праводзяць у бібліятэцы. У Арэшкаве працуе 11 настаўнікаў. Школа ганарыцца шматлікімі дасягненнямі ў спорце і беларускіх дэкламатарскіх конкурсах. Пакуль што спалучаныя толькі II і III класы, апошнія працуюць аддзельна, — расказвае пані дырэктар.

— У нас цяпер усе бацькі гавораць да дзяцей па-польску. Я сама раблю тое ж. Такая ў нас мода, — гаворыць бібліятэкарка, жыхарка Арэшкава.

— Аднак нашы дзеткі самі пачынаюць гаварыць „па-свойму”. Пэўна таму, што ўсе вучні з навакольных вёсак гавораць „па-руску”, — дадае яна.

Аказваецца, што я і бібліятэкарка вучыліся ў тым самым часе, у беларускім і польскім гайнаўскіх ліцэях. Хутка знаходзім супольных знаёмых.

— Вы „выгралі” што пайшлі ў „наш” (г.зн. беларускі) ліцэй. У польскім „агульняку” мы вымушаны былі хавацца са сваім паходжаннем. Скажы што беларус, то сяброў не знойдзеш, — успамінала бібліятэкарка.



*Ірына Герасімюк — настаўніца беларускай мовы.*

З беларускімі кніжкамі сустракаецца яна рэдка. Толькі час ад часу пазычаюць іх на ўрокі школьнікі. Для бібліятэкі гміна „Ніву” не выпісвае. Мая субяседніца пацікавілася беларускімі кніжкамі для наймалодшых. „Ці нешта такое ёсць, бо я хацела б перш за ўсё, купіць іх сваім дзецям”, — сказала яна.

Разам ідзем таксама наведаць настаўніцу беларускай мовы. Дзякуючы сімпатычнай бібліятэкарцы, я мела гонар пазнаёміцца з Ірынай Герасімюк. Настаўніца якраз хварэла, таму мы наведалі яе ў кватэры. У гэтым годзе закончыла яна факультэт беларускай філалогіі ў Варшаве. Засталося толькі яшчэ абараніць магістэрскую дысертацыю „Фальклор вёскі Арэшкава”. Апрача гэтага, яна спецыяліст па пачатковым навучанні.

— З беларускай мовай я асвойваю сваіх дзетак ужо ў першым класе. Тады мы слухаем і вывучаем самыя цікавыя песні і казкі. У другім класе наогул усе прыходзяць на ўрокі. Даваляю ім карыстацца родным дыялектам. Дзеці спачатку анесмелены такой прапановай, аднак гэта іх моцна звязвае з гэтым прадметам. Было б намнога лягчэй, каб гэты прадмет быў абавязковы. А так зважай, каб сваіх вучняў не перамучыць ці знеахвоціць. Трэба было б памяняць і падручнікі. У трэцім класе кніжка непрыдатная, тэксты надта цяжкія і сумныя. Цешыць мяне аднак тое, што дзеці чакаюць заняткаў і з радасцю прыходзяць на мае ўрокі. Пазней таксама працягваюць навучанне. У чацвёртым класе ўсе ходзяць на беларускую мову.

З чацвёртага па восьмы клас выкладае настаўніца Касцевіч. На жаль, яна таксама захварэла і прабывала на бальнічным водпуску.

Прыемна, аднак, было мне сустрэцца з ейнымі вучнямі — пяцікласнікамі. Ад іх я даведалася, што дзеці любяць „Зорку” і сваю настаўніцу. Дамовіліся мы на новую сустрэчу.

Яшчэ раз у гэты дзень прывітала мяне спадарыня Герасімюк. Разам з сынком ехалі яны ў гайнаўскую паліклініку.

— Маё дзіця здзіўляе сяброў, калі пачынае гаварыць па-беларуску, — дадала настаўніца пасля таго, як хлопчык загаварыў па-падляшску.

У Арэшкаве ўсе дзеткі вывучаюць праваслаўную рэлігію. Звыш 90% ходзіць на беларускую мову.

— Ведаеце, — пачала настаўніца, — для вясковых найважнейшае тое, што паўстаў у нас у Гайнаўцы такі сучасны беларускі ліцэй. Кожны марыць, каб у ім вучыцца. А ў апошні час падзейнічала моцна інфармацыя, што ў гайнаўскай школе „на Мазурах” запісалася на беларускую мову звыш сотні дзяцей. Такія аргументы давялі да таго, што людзі перасталі прыносіць картачкі з просьбай вызваліць дзіця ад беларускай мовы.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**



*Вучні V класа ў Арэшкаве.*

## АСЕННЯЯ РАЗМОВА Ў САКРАТАВАЙ ДАЛІНЕ

*П'ем каву і гутарым з Сакратам Яновічам у вясковa-гарадскаватых Крынках, на цэнтральнай вуліцы Сакольскай, у яго невясковай хаце — вялізнай, з верандай, баазерыяй, з партрэтамі маці ў маладосці і дзеда, яе бацькі, з карункавымі абрусамі. З жывой і здаровай маці... Яшчэ трымаецца лісце на вішні, але агарод ужо прыбраны.*

*Сюды, разбудаваўшы бацькоўскі дом, перабраліся Сакрат і Таня назусім. У даліну, поўную лёсу.**

**Ада Чачуга**

*— Сакрат на страсе! А дзе ж твая скрыпка?!*

— Малаток — гэта мая скрыпка, а абцугі — мой смык. Бачыш, дзіркі ў страсе латаю. Ідзе зіма!



*— А палітыкі адхацелася?!*

— З мяне, Ада, быў палітык вымушаны. Мяне ў палітыку ўблыталі. Не, не людзі — акалічнасці. Я, займаючыся палітыкай, марыў пра тое, калі перастану быць палітыкам.

*— Дык, можа, хоць пішаш?*

— Ну, дык, бадай, кніжак дваццаць ужо ж напісаў. Цяпер у асноўным раблю пераклады. Пішу таксама апавяданні, якія ты чытаеш у „Ніве”. Настрой тут добры для пісання. Тут такі спакой! Дзве тысячы восемсот жыхароў, а зусім гэтага не заўважаеш. У Беластоку я жыў, як у гатэлі. Сусед лупіць жонку, суседка-прастытутка рагоча з госцем у пасцелі, унізе гоняць самагонку ў чайніку, а за вакном лямант старой, у якой злодзей выхапіў кашалёк.

*Працяг на стар. 8*

# Шляхам арлянскіх піўнушак



*— У нас маладая барменка доўга не будзе самотнай.*

— У нас ужо так добра, як за санацыі, — кажа жанчына з Гміннай управы, — рэстаранаў сем-восем, а можа і дванаццаць.

**Аднак журналісты „Нівы" не могуць абапірацца толькі на словы. Хаця як на Орлю з адной тысяччу жыхароў лічба гэтая зусім самавітая.**

* * *

Насупраць аўтобуснага прыпынку — забягалаўка „У Гжыбка". Аднак нас папярэджвалі, што па-цвярозаму сюды лепш не заходзіць. Таму наведанне гэтага месца адкладаем на пазней. Балазе непадалёк **„Кафэ-бар"**, інакш — „У Хмэля". Каля трэцяй там усяго тры кліенты, а чацвёрты — нарачоны барменкі. У малых мясцінах такая звычка, калі за барам маладая дзяўчына, дык доўга не будзе самотнай. Хутка знойдзецца паклоннік, які цэлымі гадзінамі з-за першага століка не адвядзе ад яе закаханых вачэй.

**„Кафэ-бар"** невялікі, камерны, утульны. На лета выстаўляюцца ў гародчык столікі з парасонамі. У сярэдзіне драўлянае абсталяванне. Прыемная і хуткая абслуга, музыка з гукаўзмацняльнікаў. Піва гатункаў дзесьці з пятнаццаць. Найбольшай аднак папулярнасцю карыстаецца даступнае на кожную кішэнь віно „Tornado" і „Cherry".

*Хутка завязваем сяброўства з усёй залай.*

Прымаюць нас як сваіх — з намі Юрка Ляшчынскі, рэдактар беларускіх перадач Беластоцкага радыё, ураджэнец Орлі. „Што ты тым за х...ю гародзіш, Юрэк, у тым сваім радыё? Ездзіш па вёсках, пускаеш усякіх мужыкоў. Ты б пра секс даваў!" „Я ж не працую на тлебачанні", — выкручваўся Юрка.

Піва цадзілі мы пад аголенымі грудзьмі-дынямі паненкі з вялічэзнага плаката. Просьба аб секс-перадачы ў гэтым месцы здалася нам зусім дарэчы.

* * *

Найбольш разрэкламаванай карчмой у Орлі з'яўляецца **„Грота"**. Апошнім часам у наваколлі многія пра яе пачулі. Па п'янцы, калі ўспыхнула бойка, у якой загінуў чалавек.

Падаліся мы туды з абавязку, на мяккіх нагах, з жахлівымі ўяўленнямі. Па дарозе ў вочы кінулася шыльда: „Sprzedaż trumien. Sklep czwórbranżowy".

Абмінуўшы калону машын ля славутай Валечкі, за крыжыкам з Кляшчэлеўскай вуліцы звярнулі мы ў Арміі Чырвонай.

— Ідзем па гістарычным шляху першамайскіх дэманстрацый, — паясняў Юрка.

Месца, перад якім дрыжэлі нам калені, аказалася пустым, сонным. Дзядзька за прылаўкам, пабачыўшы нас, быў, здаецца, здзіўлены.

— Я толькі заступаю дачку, яна пайшла карміць дзяцей, — апраўдваў ён сваю бяздарнасць, — людзі збіраюцца тут звычайна пазней, увечары.

Піва заказваем нетутэйшае — гданьскае, вроцлаўскае, пазнанскае. Але, калі бачым, якую цяжкасць дастаўляе дзядзьку знайсці адпаведныя бутэлькі, бярэм першае з краю. Інтэр'ер бара выклікаў добрае ўражанне. Зала даволі вялікая, масіўныя драўляныя сталы, лавы, чысціня, кветкі. Падабаецца нам і навонкі. Акуратны панадворак, над якім красуецца сімвал сямейнага шчасця — буслінае гняздо.

* * *

З сапраўднай прыемнасцю даносім нашым сябрам (удзельнікам студэнцкіх рэйдаў „Бацькаўшчына"), што рэстарацыя III катэгорыі „Арлянка" яшчэ існуе. Праўда, згубіла яна частку сваіх легендарных кліентаў — адны паўміралі, іншыя пайшлі да канкурэнцыі — але нічога не страціла са сваёй атмасферы. Немагчыма ўжо з'есці тут такі багаты абед, як калісьці бывала, але затое рэпертуар напіткаў намнога багацейшы. Зрок разбягаецца па паліцах, але найпрыгажэй выглядае радок шампанскага ў ашклёнай буфет-лядоўні, дзе звычайна мёрзлі карпавыя галовы, яйкі ў маянэзе і свіньня ножкі. З навінак яшчэ рэкламы „Mars" і „Chio Chips" ды каляровы карэйскі тэлевізар, увесь час настаўлены на „Астанкіна".

Каб ратаваць падмарожанае півам горла, рашаемся на нешта мацнейшае. Мілыя асацыяцыі наводзяць кілішкі з тоўстага шкла — сто грам роўна з берагам. З такімі ў нас звычайна мужчыны едуць у лес па дровы. Яшчэ больш спадабалася нам прафесійнасць барменкі. Праз усю залу, з грацыяй, выкручваючыся між столікамі, перанесла паўнюсенькія кілішкі, не разліўшы ні кропелькі. І ўсё гэта рабіла з неадлучнай усмешкай

— I co mi jeszcze trzeba, — зацягнуў адзін з субяседнікаў.

— Міхал шчэ нэ піў, а ўжэ співае, — пракаментаваў хтосьці. Голас заглушыла агульнае патрабаванне:

— Рускую давай, рускую!

— По Дону гуляет казак молодой, — грымнуў дзядзька адразу. Песню падхапіла ўся зала.

Калі песня абарвалася на першай страфе, наша тройка згодна запляскала ў далоні. Як кожны артыст, дзядзька Міхал быў узрушаны. Зараз падсеў да нашага століка з бутэлькай віна „Кіці-кіці". Давялося паслухаць пра няпростыя жыццёвыя каляіны. Польскія песні вывучыў у войску, калі ў пасляваенныя гады змагаўся з бандамі, а руская культура асабліва блізкая ягонаму сэрцу.

— Я шмат дзе быў, але такой культуры, як на Крыме, нідзе не бачыў. Ішоў я раз па вуліцы і кінуў недакурак. А тут хтосьці бух мяне пад бок! А то дзесяцігадовы хлапчук: „Дядечка, у нас так нельзя"! Ад сораму не было мне куды вачэй дзець. Лепш бы мяне гэтае дзіцё ў лоб стукнула. І што скажаш, можа гэта не культура?

Хутка завязваем сяброўства з усёй залай. Робім памятныя здымкі. За дзверы праводзіць нас адзін кліент, які ўвесь час паўтараў, што Юркі бацька вучыў яго „паланістыкі". На двары пазычае ў Юркі дзвеццаць тысяч.

* * *

Пасля такога ўступу да **„Гжыбка"** ішлі мы рашучым крокам. На нашае здзіўленне гэта забягалаўка аказалася зусім акуратнай. Махнуўшы для прыліку піўцо, падзюрылі мы ў другі канец Орлі ў **„Марколь"**, дзе звычайна збіраюцца Міклашы.



*У кафэ-бары прынялі нас як сваіх і кожны хацеў сфатаграфавацца для „Нівы".*

Там, на жаль, спаткала нас расчараванне. Усё было зачынена. Дзядзька, які падмятаў тратуар, апраўдваўся хваробамі абслугі.

У паваротнай дарозе нашы разважанні круціліся вакол сучасных эпідэмій — чумы ў Індыі, халеры на Украіне...

* * *

*Узровень культуры бараў вызначаюць іхнія туалеты. „У Хмэля" здавальняючы. Праўда, трэба ў барменкі прасіць ключ да жалезных дзвярэй, затое ў сярэдзіне чыста, ёсць туалетная папера, цёплая вада і нават папяровыя ручнікі.*

*А ў „Гроце" бяруць нават пад увагу анатамічна-фізіялагічныя адрозненні між мужчынам і жанчынай. Хаця на дзвярах не адзначана, якая прыбіральня чыя, за дзвярыма лёгка можна зарыентавацца. Не толькі па пісуарах, але і па велічыні памяшчэння. Мужчынскае ўтрая большае.*

*У „Арлянцы" прыжылася звычка, заведзеная слаўнай калісь барменкай Гандзяй: „На двор!... вам не паадмярзаюць!" На шчасце, у час нашай рэпарцёрскай працы марозу не было.*

* * *

Паколькі да ад'езду аўтобуса быў час, рашыліся мы завітаць яшчэ раз да „Хмэля". У сярэдзіне гудзела. Прывіталі нас як старых знаёмых. „С...е адсюль", — ветліва папрасіла мясцовых перасессіцся барменка. Шырокім жэстам рукі папрасіла нас заняць вызваленыя месцы.

Тут, дачуўшы пра нашу місію, кожны пытаў, калі выйдзе гэты нумар „Нівы". І ўсе хацелі фатаграфавацца.

* * *

Разам з прыходам капіталізму намножылася ў нас розных прыватных крамікаў-будак. На ганаровым месцы ў іх, як правіла, піва. Пад плотам можна вытрубіць бутэльку-другую, тут жа пасацца і забыцца на гэтае месца.

Арлянскія бары, гэта ўжо іншая катэгорыя. Вакол іх ствараецца своеасаблівая атмасфера, узнікаюць легенды. Як у свеце Гашака, Грабаля.

Выключнасць Орлі яшчэ ў тым, што гэта ці не адзіная мясцовасць на Беласточчыне, дзе наведаеш пяць піўнушак і ўсюды афіцыйнай мовай — беларуская.

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтараў**

# УЛАДАСТРАДА

На працягу некалькіх пасляваенных дзесяцігоддзяў у Польшчы панаваў стабільны грамадскі строй. У канстытуцыі было выразна запісана, хто правіць краінай і гэты запіс вызначаў ясны, чытабельны парадак. Час ад часу, з ітэрвалам, у сярэднім, дзесяцігадовым, паяўляліся грамадскія хваляванні ў тым ці іншым прамысловым цэнтры, якія крышку патрасалі іерархічным дрэвам улады, у выніку чаго злятала найважнейшая шышка і ўсё аставалася далей па-старому. У суседніх краінах найважнейшыя шышкі ападалі не ў выніку патрасання знізу, але ад ціхага шчаўчка зверху. Іерархічная структура ўлады здавалася быць нейкім непаваротлівым манументам. У сапраўднасці аднак у ёй кіпела інтэнсіўнае жыццё і ўдзельнікі гэтага працэсу працавалі як маглі дзеля таго, каб перамяшчацца вышэй. Пра гэты рух уверх вырашалі выключна людзі, якія стаялі ў іерархіі вышэй: яны ўключалі зялёныя або чырвоныя лямпачкі кандыдатам на вышэйшыя пасады; той, хто знаходзіўся ў іерархіі ніжэй, быў тут ні пры чым. Такі грамадскі парадак, які ўтрымоўваўся больш, чым чатыры дзесяткі гадоў, надаеў грамадству нашаму і захацела яно парадку іншага. Не трэба было выдумоўваць нечага новага, бо іншы парадак існаваў у краінах, у якіх сонца ўстае пазней чым у нас, але ад гэтага тамашнія людзі жывуць не горш, але наадварот, намнога багацей. Пяць гадоў таму паявілася нагода, каб існуючы тады парадак змяніць, дык узялі і змянілі. Новы парадак адрозніваўся ад старога, між іншым тым, што не ўсе лямпачкі для чыноўніцкай кар'еры ўключаюць вышэйпастаўленыя; у ім крыху балагану: частку лямпачак уключаюць тыя зверху, а частку — тыя знізу, у тым ліку і такія, якія ўвогуле не зацікаўлены асабістай валакітай па чыноўніцкіх ступеньках. Такі парадак называецца дэмакратыяй, а актывізацыя нізоў — выбарамі. Вось у Польшчы ў будучым годзе плануюцца выбары на найвышэйшы пост у дзяржаве — прэзідэнцкія выбары. Ахвотных на гэту пасаду не бракуе і, хаця выбарчая кампанія яшчэ афіцыйна не пачалася, паволі ўжо можна наглядаць за размінкай палітычных атлетаў. Польскі перыядычны друк ужо змяшчае вынікі тэставых апытанняў, якія паказваюць выразную перавагу палітыкаў левай арыентацыі над правымі. На правым баку палітычнай сцэны, пазбаўленыя ў выніку мінулагодніх парламенцкіх выбараў рэальнага значэння групіроўкі, прабуюць аб'яднацца ў нейкую рэальную сілу. Пакуль што мітусяцца яны над выбарам супольнага кандыдата на прэзідэнта; так прынамсі заяўляюць іх лідэры. Адзін з іх, лідэр Пагаднення Цэнтр, Яраслаў Качынскі спатkаўся нядаўна з жыхарамі Беластока. Я. Качынскі ўжо ва ўступе заявіў, што сустрэча не будзе мець палітычнага характару, а будзе прысвечана бяспецы грамадзян. Паводле Качынскага, даўнія эліты, якія цяпер апанавалі банкі, прычыніліся да таго, што ў выніку розных крэдытных махлярстваў з польскай банкаўскай сістэмы выкрадзены некалькі соцень більёнаў злотых і вывезены за мяжу. Грошы гэтыя стымулююць гаспадарчы рост у замежжы, абцяжарваючы дзейнасць польскай эканомікі. У такой сітуацыі, — сказаў Качынскі, — той, хто абяцае хуткую эканамічную папраўу ў краіне, з'яўляецца папросту ашуканцам. Апрача сакрэтных махлярстваў наступіў таксама буйны рост наяўнай вулічнай злачыннасці. Для стрымання яе росту Качынскі прапануе вельмі сурова караць злачынцаў: прымяніць на іх „тоўстую і доўгую дубінку". Асабліва павінен быць завостраны турэмны рэжым і вернута смяротнае пакаранне для найбольш небяспечных злачынцаў. Ён сказаў, што цяпер няма дастатковай аховы перад забойцамі: яны атрымоўваюць пропускі з турмаў, падчас якіх могуць учыняць чарговыя злачынствы, так як гэта было з варшаўскім „ломнікам", які забіў пяць жанчын, а многіх цяжка параніў. Паставіў Качынскі пры нагодзе закід цяперашнім уладам, што дзеля палітычнай выгады, каб не справакаваць турэмных бунтаў, яны ўхіляюцца ад абвастрэння турэмнага рэжыму. Качынскі сказаў, што Пагадненне Цэнтр апрацавала новы праект баpацьбы са злачыннасцю, які прадугледжвае даволі суровыя кары для бандытаў. Качынскі адказваў таксама на пытанні, многія з якіх кранаюць палітыку.

На пытанне, як ацэньвае разбой на генерале В. Ярузельскім, Качынскі сказаў, што насуперак таму, што адчувае яго сэрца (тут ён атрымаў апладысменты ад часткі прысутных) ён выказваецца супраць такіх актаў, бо другі бок можа таксама прымяніць такія метады, а калі яшчэ пры тым паявіцца агнястрэльнае руржжо, тады будзе ўжо зусім небяспечна. На пытанне, што думае пра пазбаўленне пасольскага імунітэту некаторых парламентарыяў, у тым ліку і беластоцкага пасла С. Плевы, Качынскі сказаў, што пра Плеву, як і многіх іншых паслоў цяперашняга склікання ён не чуў, але імунітэт прыдаўся яму самому, калі быў у найбольшым разгары яго канфлікт з прэзідэнтам Л. Валэнсам; каб не імунітэт, Валэнса пасадзіў бы мяне ўжо тры разы, — сказаў Качынскі. Не абышлося, вядома, і без пытанняў пра самога прэзідэнта; Качынскі цвёрда падтрымаў тут свае варожыя да яго адносіны.

Яўная непрыхільнасць, а то і варожасць Яраслава Качынскага да тых, хто быў або знаходзіцца цяпер пры ўладзе, а таксама „непалітычны" характар сустрэчы наводзяць мяне на думку, што справа не ў бяспецы грамадзян. Качынскі хваліў Валэнсу тады, калі той цягнуў яго ўверх; калі ж Валэнса змяніў Качынскаму напрамак цягі, дыяметральна змянілася і ацэнка Валэнсы Качынскім. Што ж, „нармальныя" людзі стараюцца неяк падымацца па чыноўніцкай драбіне, а некаторыя з іх — папросту залезці на найвышэйшую ступеньку. На правым баку польскай палітычнай сцэны існуе некалькі мікрапартый, лідэры якіх лічаць сябе найбольш адпаведнымі асобамі на найвышэйшыя крэслы і не пераносяць думкі, што можа быць інакш. Яны пільна сочаць, каб ніхто з іхніх калегаў не ўзлез вышэй. Таму, вось, па-мойму, Качынскі выдумаў „непалітычны" манеўр, які дапамог бы яму апярэдзіць канкурэнтаў. У недалёкім мінулым Качынскі дабіваўся многага, захапіўшы папросту сваёй групоўцы найважнейшыя крэслы, але гэтую „навінку" ўжо прысвоілі і канкурэнты і трэба было знайсці новы спосаб. Цалкам нядаўна адбыліся прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, дзе кандыдат, які абяцаў завесці парадак пры дапамозе доўгай і тоўстай дубінкі і якога нескрываным кумірам быў Ф.Э. Дзяржынскі, абагнаў з агромным разрывам сваіх канкурэнтаў. А ці ў Польшчы, дзе ў апошніх гадах наступіў відавочны рост злачыннасці, людзі не патрабуюць спакою? Ці маршрут дарожкай, пракладзенай не абяцанкамі мільёнаў для мас, якія ўжо прагучэлі, але прымяненнем доўгіх і тоўстых дубінак супраць махляроў і бандытаў не завядзе на сам верх іерархіі? А можа гэта не дарожка, а аўтастрада, якая Качынскага, так як і Лукашэнку, імкліва давядзе да запаветнай мэты, збіваючы на пабочыну Валэнсу, Кураня і іншых левых і правых. Толькі аб Дзяржынскім — маўчок!

**Аляксандр Вярбіцкі**

# КАМУНІЗМ — БУДУЧЫНЯ СВЕТУ?

У 77 гадавіну Вялікага Кастрычніка хочацца ўспомніць некаторыя планы „геніяльнага маніфеста сучаснай эпохі". Так камуністы называлі праграму XXII з'езда КПСС, які адбыўся ў 1961 г. Да пачатку 1980 г. яна павінна была здзейсніцца. У гэта ўсе павінны былі верыць! А вось толькі некалькі праграмных намераў.

1. Савецкая прамысловасць і энергавытворчасць павялічацца найменш у два разы, так што каля 1970 г. СССР перагоніць ЗША, а да 1980 г. пакіне іх далёка ззаду ва ўсіх галінах прамысловасці.

2. У выніку навукова-тэхнічнай рэвалюцыі чалавек будзе валодаць надвор'ем, значыць і ўраджаямі. Стануць рэальнымі палёты ў космас, масавае карыстанне энергіяй Сонца, пабудова электрастанцый, якія будуць прыводзіцца ў рух адлівамі і прылівамі мора. Не будзе ніякай нявылечнай хваробы, а жыццё чалавека значна прадоўжыцца.

3. Камунізм знішчыць усе класавыя „няроўнасці". Жыхарства вёскі не будзе вельмі розніцца ад гарадскога.

4. Узровень жыцця будзе ў тры рызы вышэйшы ў параўнанні з капіталістычнымі дзяржавамі. Кожная сям'я без праблемаў атрымае кватэру. З 1965 г. камуністычныя дзяржавы пяройдуць на 6-гадзінны дзень працы. Бясплатнымі стануць падручнікі і вопратка для школьнікаў, цёплая вада і газ, камунальны транспарт, лякарствы, абеды для ўсіх працоўных. Жанчына будзе вызвалена ад хатніх заняткаў, а дзяцей выхавае дзяржава.

5. Калі наступіць поўная перамога камунізму на нашай планеце, зусім не будуць патрэбныя інстытуты арміі, міліцыі, судоў, турмаў.

6. Людзі назаўсёды забудуць пра такія „капіталістычныя плямы", як: рэлігія, нацыяналізм, бескультурнасць, эгаізм, зайздрасць, індывідуалізм і інш. Іх месца зоймуць высокія рысы камуністычнага чалавека: духоўнае багацце, маральная чысціня, вялікая культура.

7. Капіталістычны парадак, які прыносіў свету толькі вялікія няшчасці і несправядлівасць, назаўсёды зыдзе з гістарычнай арэны. На змену яму прыйдзе найбольш дасканалы і прагрэсіўны, найбольш справядлівы і разумны — камунізм.

Усё вельмі прыгожае, каб не сказаць — фантастычнае, толькі... чаму не хацелі мы жыць ў такім „раі"?..

**С. М.**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXII. Злахітрыя падкопы лукавага д'ябла

У 1594 г. на чарговым патайным з'ездзе праваслаўных іерархаў у Сокале былі сфармуляваны так званыя „Сокальскія артыкулы", што вызначалі варункі далучэння праваслаўнай Царквы да каталіцкага Касцёла. Вось некаторыя з іх. Змоўшчыкі ўніжана прасілі караля, між іншым, каб ён удастоіў праваслаўных епіскапаў месцам у сейме і сенаце, каб анафемы, якім могуць быць яны паддадзены з боку патрыярха, не ўчынялі ні ім, ні іншаму духавенству ніякай шкоды, каб патрыяршыя пасланцы з Грэцыі, „якіх мы можам смела назваць шпіёнамі", не „мелі ніякай улады над намі", каб прывілеі, дадзеныя патрыярхамі брацтвам і народу, былі знішчаны, каб праваслаўныя іерархі былі ўдастоены такіх жа свабод і правоў, якімі карыстаюцца арцыбіскупы і ўвесь рымскі клір. Такім чынам з прадстаўленых каралю 10 „артыкулаў" аж у 7 патрабаваліся новыя асабістыя прывілеі для іерархаў і толькі ў 3 краналіся справы будучыні Царквы.

Убачыўшы такія „патрабаванні", кароль, польскі эпіскапат і прадстаўнікі рымскага папы нямала ўсцешыліся і ў паскораным тэмпе апрацавалі праект уніі і іншыя акты, якія праваслаўныя іерархі ахвоча падпісалі на сінодзе 12 чэрвеня 1595 г. Упаўнаважанымі вызнаць веру і волю праваслаўнай Царквы Рэчы Паспалітай аддацца ўладзе папы рымскага былі выбраны Кірыл Тэрлецкі і Іпацій Пацей.

Тым часам, як сказана ў Свяшчэнным Пісанні, „няма нічога такога тайнага, што не сталася б яўным". І здрада іерархіі ды праект уніі выклікалі ў праваслаўнай грамадскасці агульнае абурэнне і рашучае асуджэнне. Супраць такой паніжаючай праваслаўе уніі асабліва востра выступіў заслужаны дзяржаўны дзеяч і ахвярны абаронца Царквы ваявода кіеўскі і сенатар князь Канстанцін (Васіль) Астрожскі. У акружным пасланні да ўсіх праваслаўных Рэчы Паспалітай ён, між іншым, пісаў:

**У цяперашні час злахітрымі падкопамі лукавага д'ябла самыя галоўныя іерархі нашай праўдзівай веры, спакусіўшыся славай гэтага свету, азмрочаныя цемрай пажадлівасці, нашы фальшывыя пастыры, мітрапаліт з епіскапамі абярнуліся ў ваўкоў... яны патаемна змовіліся паміж сабою, акаянныя, як хрыстапрадавец Іуда з жыдамі адарваць набожных хрысціян без іх ведама і кінуць разам з сабою на гібель, як выдаюць іхнія самыя сакрэтныя пісанні... Верагодна даведаўшыся пра такіх адступнікаў і яўных здраднікаў Царквы Хрыстовай, паведамляю пра іх усіх вас як улюбёную маю ў Хрысце брацію. І хачу разам з вамі ў адзінстве стаяць супраць ворагаў нашага збаўлення, каб з Божай дапамогай і з вашым руплівым стараннем, яны самі трапілі ў тыя сеці, што патаемна на нас рыхтавалі... Якая нам можа быць ад іх карысць? Замест таго, каб быць святлом свету, яны сталіся цемрай і спакусай для ўсіх.**

Дзякуючы вялікім намаганням князя Астрожскага ад уніятаў адступіўся епіскап львоўскі Гедэон Балабан і апеляцыю свой публічны пратэст супраць уніі, між іншым, сцвярджаючы: „...рашэнне аб ёй прынята насуперак правілам і звычаям нашай веры праваслаўнай, нашым правам і вольнасцям, без ведама і дазволу патрыярхаў, нашых духовых іерархаў, без нарады духоўнага сабора, а таксама без волі свецкіх саслоўяў, як знатных старажытных родаў, так і простых людзей веры праваслаўнай, без якіх мы нічога ўчыніць і вырашаць не можам". Да епіскапа Гедэона далучыўся епіскап пярэмышльскі Міхаіл Капысценскі, шэраг архімандрытаў і ігуменаў, баярства, народ.

Для вырашэння пытання аб уніі праваслаўная грамадскасць на чале з сенатарам князем Астрожскім і яго сынам Аляксандрам, навагрудскім ваяводам Фёдарам Скуміным-Тышкевічам і іншымі дзяржаўнымі

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### Разяў свой рот шырока

Убачыла Даротка
Цётку пасля ўрокаў
І просіць сваю цётку:
— Разяў свой рот шырока.

Матуля нам заўсёды
Вось гэта паўтарае,
Што, цёця, ты ад роду
Язык даўжэзны маеш!

### Вудзільшчык

Настаўнік сцвердзіў, што ўжо змалку
Любіць хадзіць ён на рыбалку.
Ён у азёрную ваду
Закінуў зноў сваю вуду.

Папаўся раптам на кручок
Такі маленькі шчупачок.
Пусціў яго ён са славамі:
— Заўтра прыходзь ка мне з бацькамі.

### Хлус

Прыселі хлопцы ля ракі
І ловяць вудай шчупакі.
— Злавіў учора, — кажа Лёва, —
Я рыбу даўжыні метровай!

Гэта ж была мая удача!
Рыбы такой яшчэ не бачыў.
— Я веру, — адазваўся Коля, —
Такой не бачыў ты ніколі!

**Адказ на „Падарожжа...".**
**Літаратурная задача.** Па гарызанталі: *1) Крапіва, 2) Дубоўка, 3) Вялюгін, 4) Семяжон, 5) Мурашка, 6) Лынькоў, 7) Кавалёў.* Па дыяганалі: *Куляшоў.* **Адна літара.** 1. Па гарызанталі: *1) мустанг, 2) макака, 3) майка, 4) маяк, 5) май, 6) мы, 7) літара М.* Па вертыкалі: *1) „Масквіч", 2) музыка, 3) міска, 4) муха, 5) мяч, 6) мі.* 2. Па гарызанталі: *1) карандаш, 2) Карагач, 3) Казбек, 4) кулан, 5) кара, 6) кіт, 7) ка.* Па вертыкалі: *1) Кандагач, 2) кабарга, 3) калымк, 4) канал, 5) карп, 6) кор, 7) кю.* **Алфавіт.** *Біклага, фанфара, параход, канверт, касілка, пустыня* і інш. — па гарызанталі.

*На аглядзе беларускай песні прыгожа выступіў гурт з Нараўскага асяродка культуры.* Фота М. Ваўранюка

## ЛІСТАПАД

Сонца ўжо даўно павярнула на зімовы круг, і яго моц заўважна паслабела. Продкі славян верылі, што багі святла і цемры бясконца змагаюцца за валоданне светам. І ў пару лістападу пачынае перамагаць Марана, багіня ночы і смерці. Гэтае імя было вядома яшчэ старажытным жыхарам Індыі і азначала ў іх смерць, мор. У беларусаў яно дажыло амаль да нашых дзён. У раздзеле паэмы „Новая зямля", у якім апавядаецца пра апошнія хвіліны жыцця Міхала, Якуб Колас нагадаў пра багіню смерці: „...кожны момант над табою звісае страшнаю марою".

Замірае прырода. Усё менш і менш сонца, святла, усё даўжэй цягнецца ноч — уладарыць Марана. І невыпадкова, відаць, беларусы ў час лістападу ладзяць свята памерлых — Дзяды, асноўны абрад якога — спажыванне 12 спецыяльных страў, частаванне душаў памерлых продкаў — выконваўся пасля змяркання і ноччу. І для назвы гэтай пары нашы продкі, іншыя славянскія народы выбралі характэрную з'яву ў жыцці дрэў — ападанне лісця — падрыхтоўку дрэў да зімы, да ўмірання. Рускія, балгары, славакі запазычылі імя гэтага месяца ад старажытных рымлянаў, у календары якіх лістапад — дзевяты месяц, новэмбэр (ад лацінскага слова новэм — дзевяць).

Здзіслаў Сіцько

<u>ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ</u>

*Ала Канапелька*

### Божая кароўка

Божая кароўка,
хто твая сяброўка?
Пасябруй са мною,
дзяўчынкай малою.

У мяне чырвоны бант,
чорная краплінка,
і падобны акурат
бант за тваёй спінкай.

Божая кароўка,
чорная галоўка,
залатая броўка,
ты — мая сяброўка!

### Папрасілі дзеці мышку

Папрасілі дзеці мышку:
— Пачытай нам, мама, кніжку!
Літар мы не разумеем
і чытаць-пісаць не ўмеем.

Кніжку гэтую сцягнулі
мы ў маленькае Ганулі.
Пра мышэй там, пэўна, казка,
пачытай нам, калі ласка.

## З лістоў у „Зорку"

Добры дзень! Напачатку хачу вельмі падзякаваць журналісту Міколу Ваўранюку за цікавую кніжку. Я прачытаў яе ў тыдзень. У ёй апісваюцца прыгоды і перажыванні дванаццацігадовага англійскага хлопца Джыма Хоўкінса на моры. Пасля гэтай кнігі я напісаў верш.

Мае канікулы праляцелі, як птушка ў вырай. Прайшлі яны ў мяне без вялікіх прыгод. Я летам чытаў кнігі, між іншым маю ўзнагароду за адгаданку ў „Зорцы", кнігу апавяданняў Міры Лукшы „Дзікі птах верабей". За гэту кнігу вельмі дзякую „Зорцы"! Ездзіў я таксама з сябрам у лес, збіралі мы там суніцы і маліны. Ігралі дома ў шашкі, мяч, карты і настольныя ігры. У спякоту ездзілі на раку, якую ў нас сёлета паглыблялі. Дапамагаў я бацькам у жніваванні і сенакосах, крыху нават ездзіў на трактары. Вечарам слухаў радыё і глядзеў некаторыя перадачы ў тэлебачанні. Цікава, як правялі канікулы іншыя дзеці?

**ЮРКА БУЙНЮК,**
**Маліннікі**

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

### 23

**Дзік ваюе са шкоднікамі. Мы танцуем вальс. (2)**

Сабака пераступіў з лапы на лапу, вельмі грэбліва крывячы морду. Нарэшце расшчапіў зубы і выплюнуў чорную муху-гудуху, яшчэ жывую. Яна страпянула крыльцамі і папаўзла па падлозе.

Сабака хутка ўдарыў лапаю і адступіўся.

На здарэнне прыбег Алік з двара. Дазнаўшыся, што адбылося, ён запляскаў у далонькі:

— Дайце яму хутчэй малака! Хай апаласне рот. — І павучальна дадаў: — Чаго толькі не зробіць верны сабака для гаспадара.

Алік ведаў дакладна, што найбольш падабаецца Дзіку і чым ён грэбуе. У доме хлопчык быў часты госць, часамі загульваўся, хацеў есці і сядаў у нас за стол. Любіў так званы мінскі хлеб, нават выказваў жаданне атрымаць кавалачак.

Дазнаўшыся пра гэта дома, яму забаранілі прасіць чаго-небудзь самому. Мама дазволіла толькі часам прыняць прапанову і сказаць „калі ласка". Для хлопчыка такая працэдура была складанай, мамін загад перайначыўся і, падгаладаўшы, ён казаў пошапкі Гаспадыні: „Хачу, калі ласка, мінскага хлеба".

Вядома, вабілі яго ў наш дом жывёлы, асабліва хораша дружылася ўіх з Дзікам. Таму ён так захоплена сустрэў сягонняшні сабакаў учынак.

Тым часам Дзік выеў малако, морда ў яго набыла выраз абвыклай прыязнасці, а ў вачах чыталася надзея: „Ці прайшліся б мы куды?"

— Не, Дзічок, — сказаў я, — не пара.

Гуляць аднаго яго выпускалі на світанні або калі аціхаў рух на вуліцах. Зараз жа толькі бралася з поўдня дый на стале чакала недаконачаная работа.

Я пачухаў яго за вушамі, сабака ад задавальнення выцягнуў шыю і плюшчыў вочы.

— Калі хочаш, прашу на тур вальса.

Прапанова была сустрэта прыхільна, і лапы ўмомант апынуліся ў мяне на плячах. Без музыкі мы абкружыліся вакол стала, прарабляючы нагамі нешта вельмі мала падобнае да плаўных рухаў цудоўнага танца.

Гэтая забава надзвычайна падабалася яму: колькі б разоў на дзень я ні выходзіў з дому, усё роўна па звароце мусіў адбываць прызвычаеную цырымонію.

Звычайна, сустрэўшы ў дзвярах, сабака праводзіў мяне да вешалкі і цярпліва чакаў, пакуль здыму паліто і пераапрануся ў хатнюю адзежу. Тады, бачачы, што сабачая цярплівасць пераходзіць межы магчымага, я запрашаў: „Давай абдымемся!" І мы сапраўды абдымаліся, ён даставаў мяне лапамі каля шыі, я абшчэпліваў яго за тулава і крыху прыўздымаў над падлогай.

Аднойчы, зусім выпадкова, я закружыўся, ашчаперыўшы сабаку, па пакоі. Адтуль і павялося — заканчваць сустрэчу вальсам — ён запомніў гэтае слова і ўспрымаў яго як прыемную каманду.

Часамі, знерваваны ці заклапочаны, я забываўся прарабіць сустрэчу з усімі падрабязнасцямі. Сабака крыўдзіўся, клаўся на месца і з дакорам пазіраў адтуль, пакуль не звернешся з нейкім прывітлівым словам.

Здараліся часам выпадкі, спачатку зусім не зразумелыя: Дзік адмаўляўся ад танца. Мала таго, не хацеў падтрымліваць са мною хоць якія адносіны. Сустракаў каля ўвахода, пачынаў бы лашчыцца, але, пацягнуўшы ў сябе паветра, адварочваўся і смутна кіраваўся ў кутох.

Растлумачылася гэта не так дужа хутка, але зусім проста: сабака не любіў паху віна, чуў яго здалёк. Хай сабе ў роце ў чалавека пабыла адна кропля віна, самага лёгкага і добрага, з грузінскага вінаграду.

Такі перапынак у нашых дачыненнях адразу ж выкрываў Гаспадара перад хатнімі: ага, спазніўся на вячэру, значыць, быў недзе на бяседзе з сябрамі...

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ 7

### Літаратурная задача

Упішыце ў клеткі па **гарызанталі** словы са значэннем:



1) байкапісец і драматург;
2) аўтар зборніка „Цудоўная знаходка";
3) аўтар зборніка „Галубы на вежы";
4) беларускі перакладчык;
5) аўтар рамана „Сын";
6) аўтар аповесці „Міколка-паравоз";
7) аўтар аповесці „Андрэйка".

Па **дыяганалі** — беларускі паэт.

### Адна літара

1. Калі вы правільна запоўніце ўсе клеткі гэтай сеткі, замест лічбаў усюды стане адна і тая ж літара. З яе пачынаецца кожнае новае слова, якое трэба запісаць злева направа або зверху ўніз. Кожнае слова на адну літару менш за папярэдняе. Вось значэнні слоў:

| а | л | ф | а | в | і | т |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | л | | | |
| | | | ф | | | |
| | | | а | | | |
| | | | в | | | |
| | | | і | | | |
| | | | т | | | |

па **гарызанталі** —
1) дзікі конь;
2) малпа;
3) прадмет спартыўнай формы;
4) вежа з сігнальнымі агнямі;
5) месяц;
6) займеннік;
7) літара.

Па **вертыкалі** —
1) марка аўтамабіля;
2) від мастацтва;
3) прадмет пасуды;
4) насякомае;
5) спартыўны інвентар;
6) нота.

2. **У гэтай сетцы** — іншыя словы і зусім другая літара:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | |
| | 2 | | | | | | |
| | | 3 | | | | | |
| | | | 4 | | | | |
| | | | | 5 | | | |
| | | | | | 6 | | |
| | | | | | | 7 | |
| | | | | | | | 8 |

па **гарызанталі** —
1) прылада для пісьма;
2) паўднёвае дрэва;
3) гара на Каўказе;
4) жывёла;
5) частка дрэва;
6) вадзяная жывёла;
7) прыназоўнік;
8) задуманая літара.

Па **вертыкалі** —
1) горад у Казахстане;
2) жвачная жывёла;
3) нацыянальнасць жыхара былое АССР;
4) воднае збудаванне;
5) рыба;
6) хвароба;
7) літара лацінскага алфавіту.

### Алфавіт

Запоўніце клеткі так, каб у сярэдняй вертыкалі зверху ўніз чыталася слова *алфавіт.*

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | |
| | 2 | | | | | |
| | | 3 | | | | |
| | | | 4 | | | |
| | | | | 5 | | |
| | | | | | 6 | |
| | | | | | | 7 |

*(працяг у наступным нумары)*

*Аляксей Зарыцкі*

# СКАРБЫ

Мова,
Пявучая родная мова,
Ты — уладарка нявызнаных
скарбаў.
Столькі значэнняў,
гучанняў і фарбаў
Мае ў табе тваё кожнае слова.
Іншае слова напоўнена плёскам
Хвалі дняпроўскай.
Іншае слова такое,
Што рэха лясное
Ў яго глыбінях затоена.
Ёсць і як мёд залатое, густое,
На травах яно духмяных
настоена.
Ціха гучаць у мове маёй
Словы пяшчотныя,
Словы крынічныя,
Росныя.
Чуюцца ў ёй —
І грымотныя,
Зычныя.
Водгулле бітваў у іх
Разлягаецца грознае.
Часам бывае — заззяе
неспадзявана
Новаю зоркаю слова-абнова.
Колькі ў табе нявызнаных
скарбаў схавана,
Мова мая,
Пявучая родная мова.

# ФЛАРЫСТЫКА

Фларыстыка — від творчасці, матэрыялам для якога служаць засушаныя кветкі, лісты, мох, кара, салома. З іх можна зрабіць маляўнічыя дэкаратыўныя пано, віншавальныя паштоўкі.

Найбольш папулярнае плоскае засушванне. Зразаць расліны для засушвання трэба ў сухое сонечнае надвор'е. Для плоскага засушвання лепш браць дробныя кветкі, лісты без галінак, пялёсткі буйных кветак. Галоўная ўмова захавання колеру — хуткае засушванне, галоўная ўмова захавання формы — правільная ўкладка расліны.

Тэхніка плоскага засушвання нескладаная: адкрыйце складзеныя ўдвая газетны аркуш і на адну стронку акуратна пакладзіце матэрыял, які трэба засушыць, прыкрыйце яго другой старонкай. Так запоўніце раслінамі некалькі газетных аркушаў. Падрыхтуйце пракладкі — сухія газеты. На 1—2 газеты пакладзіце закладку з раслінамі, зверху другую пракладку, на яе зноў газету з раслінамі. На апошнюю пракладку пакладзіце фанеру, на яе — што-небудзь цяжкае. Кожны дзень мяняйце адсырэлыя пракладкі на сухія да таго часу, пакуль расліны высахнуць (3—7 дзён).

Пачынайце работу над пано з падборкі падыходзячага фону. Ён можа быць з тканіны, рагожкі, паперы і інш. Па колеру ён павінен гарманізаваць з тым матэрыялам, які выкарыстоўваецца, каб кантрасціраваць з ім.

Кампазіцыйна матэрыял можна размясціць па ўзору падноса, у выглядзе вяночка, гірлянды, букета ці летняй паляны. Буйныя, цёмныя кветкі размяшчайце ўнізе, дробныя і светлыя — вышэй, парасонікі, каласкі, мяцёлкі завяршаюць кампазіцыю ўверсе.

# БУДЗЕМ ЛАСКАВЫ

Найчароўныя з усіх „чарадзейных" слоў — гэта, вядома, „калі ласка":

*Яны ад шчодрасці народа,*
*Ад чысціні яго, спагады,*
*Як песня родная ці казка,*
*Два шчырых словы:*
*Калі ласка!*

*(А. ЛОЙКА)*

Гэты самабытны зварот паўстаў са спалучэння „Калі на тое будзе Ваша (Панская) ласка", з якога засталіся першыя ды апошнія словы. „Калі ласка" — не толькі знак ветлівай просьбы, але і адзін са слоўных сімвалаў беларускай мовы, вядомы і паміж суседніх народаў.

Тым больш варта смела пачынаць кожную просьбу ці пытанне — на вуліцы і ў краме, у тралейбусе і ва ўстанове — са слоў „Калі ласка". Ваш суразмоўца адразу зарыентуецца, што вы гаворыце па-беларуску, і яму лягчэй будзе „настроіцца" на разуменне. Шчырую просьбу суправаджаем і такімі словамі:

— Зрабіце ласку! Майце ласку! Будзьце ласкавы!

Такім чынам, у краме:

— Пакажыце, калі ласка, вунь той паясок! Зрабіце ласку, загарніце!

У тралейбусе: Калі ласка, перадайце! Скасуйце, калі ласка, квіток (білет, талон).

На пошце:

— Будзьце ласкавы, закажыце пяціхвілінную размову з Віцебскам!

Урэшце, на вуліцы:

— Скажыце, калі ласка, колькі часу (каторая гадзіна)? Будзьце ласкавы, парайце, чым — цягніком ці аўтобусам — зручней ехаць у Заслаўе?

Калі што, беларус мае ў кішэні і жартоўны адказ:

— Ласка — не каляска, сядзеш — не паедзеш!

А як даць зразумець нябачнаму тэлефоннаму суразмоўцу, што вы паднялі слухаўку (тэлефонную трубку) і гатовы да гутаркі? Можна прамовіць звычайнае, безаблічнае „Алё!". Можна больш нацыянальна акрэсленае: „Слухаю!". Аднак, найлепш, відаць, гэтак: „Калі ласка!" Мауляў, гаварыце, вас чуюць.

**Вінцук Вячорка**



*Ганулька з Рыбалаў.*
**Фота Ганны Кандрацюк**

# ЛАСТАВЯНЯТЫ

Над акном адной музычнай школы жылі ластаўкі. Пакуль у школе развучвалі сальфеджыо, усё ішло добра. А нотную грамату вучні авалодваць сталі — ластавяняты так і рваліся з гнязда. І тады бацькі сказалі:

— Ляціце! Толькі не абсаромце нас.

Шухнулі ластавяняты на волю, палёталі і на правады паселі. Здалёк глядзелася — нібы ноты ў спеўніку. Бацькі радаваліся:

— На карысць навука пайшла!

А Вераб'іха ўсумнілася:

— А ці могуць яны дорэмі-фасолю зрабіць?

Ластавяняты пераляцелі з провада на провад і паказалі, на што яны здатныя.

— Нічога не скажаш! — пахваліла Вераб'іха і кінулася збіраць сваіх верабянят, каб даказаць, што і яны не лыкам шытыя.

Але як ні стараліся яны, як ні пералятлі з провада на провад, у іх так нічога і не атрымалася — ні дорэміфасоль, ні сольфамірэдо. Яшчэ горай заспявалі яны:

— Чык-чырык! — усяго што маглі.

Вераб'іха сказала:

— Бо далекавата ад школы музычнай выхоўваліся!

**Яраслаў Пархута**

# Вясёлы куточак

* * *

Аднойчы звярнуліся да гультая:
— Табе ніколі не прыходзіць у галаву думка пайсці на работу?
— Прыходзіць.
— Ну і што?
— Прыйдзе на мінутку і тут жа адыходзіць.

* * *

Бацька і дарослы сын былі вялікімі гультаямі. Неяк ляжаць яны і назіраюць, як маці носіць мяшкі з бульбаю. Бацька і кажа:
— Не бяры, Алеся, многа, на плечы не закінеш.
А сын падбадзёрвае:
— Нічога, мама, бяры, я паддам.

* * *

Дачка пытаецца:
— Мама, крапіва кусаецца?
— Кусаецца.
— Дык чаму яна не брэша?

* * *

Дзяўчынка напісала пісьмо сяброўцы:
„Дарагая Аня! Прабач, што я забылася твой дзень нараджэння. Будзе справядліва, калі і ты не ўспомніш пра мой, які будзе ў наступную сераду".

**Праўда**

Бацька: Сынку, кажы праўду!
Сын: Я баюся. Бо тата няраз казаў, што праўда ў вочы коле.

**Малы ласун**

Падчас вячэры малы Юзік пытаецца ў бабкі, навошта яна носіць акуляры.
— Бо яны павялічваюць прадметы.
— Ой, бабулька, як будзеце мне кроіць пірагі, дык, калі ласка, здыміце іх.

* * *

—Паўлік, чаму ты кожны дзень спазняешся ў школу? Няўжо ў вас няма будзільніка?
— Будзільнік ёсць, ды толькі ён звоніць, калі я сплю.

* * *

— Віця, я спаткаў тваю настаўніцу, яна зноў скардзілася, што дрэнна паводзіш сябе.
— І чаго яна скардзіцца? Я ж сёння зусім не быў у школе!

* * *

— Раскажы, Толя, бабулі верш: ля ёлкі ты расказваў.
— Без ёлкі я не магу, забываюся.

# Асенняя размова ў Сакратавай даліне

*Працяг са стар. 1*

*— Выключна нецікавая кампанія! А ты ж бы хацеў, пэўна, нешта напісаць?!*

— На дадатак Віктар Стахвюк звоніць і пытае, каторая гадзіна, бо ў яго сапсаваўся гадзіннік... У Крынкі не пазвоніць. Тэлефоны дарагія. Цішыня тут, лепшае здароўе і ахвота да працы. Блізка возера і стары парк з васемнаццатага стагоддзя. Уладальнікам яго быў нейкі французскі памешчык дэ Вір'ён. У нас казалі: Вір'янаў двор. Ну, і грыбоў поўны лес...

*— А збіраць навучыўся? Памятаеш, як у лесе Дзядзькі Кваса ты павыкідаў усе найлепшыя грыбы, якія там сабраў? Думаў, што воўчыя...*

— Не, не навучыўся! Гэта Таня збірае.

*— Адна?*

— Што ты! То з мамай, то з сястрою, то з швагравай дачкой. Як хтосьці прыедзе, то ім аддаем паддашша. Там можна жыць!

*— Я думаю! Два пакоі ды вялікае гарышча, якое служыць і за хол, і за кухню. І часта наведваюць вас тут госці?*

— Лёнік часта прыязджае, тут жа пятнаццаць-дваццаць мінут язды на машыне. Учора быў. Прыязджаюць многія, у асноўным тыя, што і прыязджалі. Выпадковыя людзі перасталі наведваць нас.

*— Бензін таксама дарагі!*

— Прыязджаюць тыя, што маюць да мяне справу. Нядаўна былі з нямецкага тэлебачання — з Саксоніі.

*— Немцы ці лужычане?*

— Немцы, але ім цікава было, як жыве беларускі пісьменнік у Польшчы. Яны наогул займаюцца справамі нацыянальных меншасцей і малых народаў Еўропы. У гэтым сэнсе я мог іх цікавіць. Калі ўсё зацвіце, хочуць прыехаць і здымаць дакументальны фільм.

Быў чалавек з Нарвегіі, які піша пра нацыянальныя меншасці ў Еўропе, у тым ліку і ў Польшчы.



*— А як яны да цябе трапляюць?*

— Нарвега прывёз Палінскі, галоўны рэдактар „Gazety Współczesnej”. Але заўсёды нехта іх, чужаземцаў, суправаджае, найчасцей — з Варшавы. У Нарвегіі ж нават нешта маё апублікавалі.

У Францыю таксама нядаўна пісаў па іхняму заказу пра дылемы беларускага пісьменства ў Польшчы.

*— А ці ў Польшчы цікавяцца гэтай праблематыкай?*

— Выключна ў Польшчы, бо ў самім Беластоку — не.

*— У Беластоку і так усе ўсё ведаюць!*

— Во, паглянь. За апошні час, недзе ад жніўня, я даў інтэрв'ю для зялёнагурскай „Gazety Lubuskiej” — загаловак „Сэрца — беларускае, грамадзянства — польскае”. Там мяне змясцілі нават не ў абы-якой кампаніі, а побач са скрыпачкай Вандай Вілкамірскай і палітыкам Мечыславам Ракоўскім. Таксама было пра мяне ў пазнанскай газеце „Nowy Nurt”, у альштынскім „Dzienniku Pojezierza”, у „Rzeczypospolitej” быў тэкст Віктара Варашыльскага „У малой айчыне Сакрата Яновіча”, гэта як бы рэцэнзія маіх апошніх кніжак. Своеасабліва былі надрукаваны ў Гданьску ў часопісе „Pomerania” мае мініяцюры: беларускі тэкст, а тады польскі і англійскі пераклады.

*— А што чуваць на выдавецкай ніве?*

— Адна кніжка ў друку. „Мастацкая літаратура” выдае „Сцяну” на беларускі рынак. Дзве кніжкі рыхтуюцца на маё 60-годдзе — выбраныя творы (у рамках бібліятэкі „Белавежа”), а другая — супольна з Лёнікам Тарасэвічам — выйдзе ў Венецыі, выдае Габрыэля Кардацца з галерэі дэль Кавэліна. Будуць там каляровыя рэпрадукцыі Лёнікавых карцін і мае мініяцюры. Будзе гэта літаратурна-мастацкая кніжка эксклюзіўнага ўзроўню.

*— Вельмі цікава! Гэта будзе як бы і Лёнікаў альбом?*!

— Менавіта. Таму нельга сказаць, што гэта будзе толькі мая кніжка, а мая і Лёніка. Літаратура і жывапіс.

*— А ўсё ж такі, Сакрат, не-не, ды і вылазіць з цябе палітык. У двухтысячным нумары „Нівы”, з нагоды пяцігоддзя Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, стваральнікам якога фактычна быў ты, кідаеш як бы папрок у бок „лявіцы”. „Зорны час для БДА надыдзе не раней ад фінальнай кампраметацыі левых сілаў”.*** *Але ж табе, бадай, лепш за іншых вядома, што беларусы ў сваёй масе аддаюць перавагу менавіта левым сілам, што яскрава паказалі выбары ў парламент. Дык як жа БДА будзе выглядаць на гэтым фоне? Ці не хацела б яно стаць эгалітарнай арганізацыяй?*

— Беларускі электарат, ведаючы, што нацыянальна-меншаснае прадстаўніцтва і так не адыграе істотнай ролі ў польскай палітыцы, галасуюць за т.зв. лявіцу. Не ведаючы таго, што ўсё і так будзе ісці, як мусіць ісці: вольны рынак, рост цэн, беспрацоўе.

БДА павінна канцэнтравацца на барацьбе за мясцовую ўладу. Як паказвае прыклад Бельска ці Гарадка, гэта цалкам магчымая справа, што не абазначае, вядома, быццам нам не патрэбны наш пасол у парламенце. Высветлілася аднак жа ў часе апошніх выбараў, што нават падтрымка Царквы не дае шанцаў мець там свайго чалавека. Рэальна гэта будзе толькі тады, калі БДА будзе ісці ў саюзе з іншай партыяй.

*— Што, на тваю думку, засталося беларусам добрага ад этасу „Салідарнасці”, якім частка нашых так захаплялася ў свой час?*

— Свабода. Але просты чалавек мусіць мець над сабой пана. Свабода гэта катэгорыя культуры. Чалавек нізкай культуры, малога духа і сэрца не патрабуе свабоды.

*— На паперы свабода была заўсёды. Іншае нясе жыццё. Вось хаця б узяць казус Колі, які няхочучы наступіў на той няшчасны плакат „Салідарнасці”, што быў раскладзены на падлозе калідора, амаль пад самымі дзвярыма нашай рэдакцыі, а раструбілі, што быў бандыцкі напад на рэгіён „Салідарнасці”.*

*І падумаць, толькі, што некалі была я ў Ірка Харашухі (сенатара ад ПЦ*



*папярэдняй кадэнцыі) на рэдакцыйным вяселлі — ад „Нівы”. Што з намі зрабілася. Адкуль столькі нянавісці.*

— Калі нас лупяць, трэба хацець адбівацца. Калі нехта лезе табе на галаву, то ты яго скінь! „Правіцы” патрэбны вораг. Ён апраўдвае іх няўдачы.

*— А што ты думаеш пра сённяшнюю „Ніву”?*

— „Ніва” цяпер шукае сваё месца. Яна яшчэ не знайшла чытача цяперашняга часу. Ад народнай, сялянскай газеты яна, на маю думку, мусіць стацца газетай мястэчковай — Орлі, Кляшчэляў, Гарадка, Крынак... У Крынкаўскай гміне было прыблізна сорак вёсак і вёсачак і нешта каля дваццаці пачатковых школ. А цяпер — на ўсю гміну адна поўная васьмікласная школа ў Крынках. З шматлюдных некалі Крушынянаў у Крынкі, у першы клас, давозяць адно дзіця! А там жа стаіць вялікая, мураваная школа-тысячагодка, пабудаваная пры Гамулцы, і цяпер невядома, што з ёю рабіць. Я гавару тым самым пра базу „Нівы”. Зніклі сяляне як істотны пласт грамадства. У Крынкаўскай гміне, тэрыторыя якой удвая большая за тыповую польскую гміну, гаспадароў — у трыццаць разоў менш, усяго іх тут каля сарака.

*— Ты ўсё жыццё, Сакраце, змагаўся за беларушчыну, нават на нейкі час стаўся больш палітыкам, чым пісьменнікам. Ці сёння ёсць у цябе падставы адчуваць сатысфакцыю, што ў выніку тваёй дзейнасці беларусы сталі мацнейшыя, больш зінтэграваныя, пасталелі як нацыя?*

— Няма сатысфакцыі і адначасна ёсць яна. Няма радасці, але і ёсць — як бы ўперамешку з роспаччу. Беларусы ў нас дарэшты не прападуць, застанецца іх няшмат, тыя толькі, у каго моцны характар, самастойная асоба і высокая культурнасць. Наша нацыянальная меншасць робіцца штораз больш інтэлігентнай, інтэлігенцкай, а беларуская мова — „панскай” ужо! Энтузіястычная, нават самапаланізацыя халопаў і ўсякае чэрні чыніць з пальшчызны нешта будзённае, пазбаўляе яе ранейшага бляску, святочнасці... Лёнік кажа: заходжу ў гарадоцкую ўправу гміны, натоўпікураднікаў, вядома, польшчыць, але да мяне вельмі намагаюцца па-беларуску, бо я ім — гэта хтосьці з шырокага свету, а не тутэйшы боўт! Яму, боўту, можна і па-польску, але не мне! І трохі іранізуючы: пры сацыялізме і моцным БГКТ у нас тады заядла шукалі, білі, беларускіх нацыяналістаў, а быў ім кожны, хто меў адвагу ганарыцца сваёй нацыяй. Ну і так дакладна знішчожылі іх, што сёння даводзіцца ўжо нават навучаць беларускай мове праз польскую, а тыражы кніжак цалкам дастатковымі сталі ў ліку ста экземпляраў, замест пяцітысячных яшчэ ў шасцідзесятыя гады.

Але не ўсё жаль і жалі на душы, ёсць і свядомасць таго, што, калі б не тое, як ты кажаш, змаганне за беларушчыну, дык сёння мы ўжо не сустрэліся б вось так і не разважалі б пра смутныя беларускія справы; іх наогул даўно не было б, ты (я, іншыя) пайшлі б, так сказаць, „следам за дзедам”, г.зн. з кацапаў у палякі.

*— Дзякую табе за размову, а Тані — за смакавітыя аладкі з вішнямі!*

**Гутарыла Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

*) Sokrat Janowicz, Dolina pełna losu, Białystok 1993.

**) „Ніва” н-р 37 (2000) ад 11.09.94 г.

# „Сустрэчы культур” у Любліне

Ужо некалькі гадоў Люблін прабуе праявіць сябе ў ролі горада, распаложанага на мяжы культур Усходу і Захаду. Ажыццявіліся тут многія ініцыятывы па вывучэнні памежжа: дзейнічае, узначалены прафесарам Ежы Клачоўскім, Інстытут Сярэдне-Усходняй Еўропы, выдаецца нядрэнны літаратурны квартальнік „Крэсы”, сваю навукова-музычную дзейнасць вядзе Фонд „Музыка Крэсаў”. Можна сказаць таксама пра шмат меншых мерапрыемстваў, такіх як, напрыклад, „Аркестр Святога Мікалая”, які горш ці лепш папулярызуе культуру ды фальклор Карпатаў, прыбліжаючы люблінцам песні ўкраінцаў, лэмкаў, славакаў і іншых народаў гэтага рэгіёна.

Нельга забывацца і на існуючы ўжо 6 гадоў на Каталіцкім люблінскім універсітэце факультэт славянскай філалогіі, які рыхтуе спецыялістаў па рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіях. Трэцюю гадавіну адзначаў сёлета таксама факультэт украіністыкі на Універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай, другую — факультэт беларусістыкі.

У верасні гэтага года цікавую культурную дзейнасць пачаў „Тэатр НН” па вуліцы Гродскай 34. Дзякуючы фінансавай падтрымцы Аддзела культуры Гарадской управы ў Любліне, Фонду Стэфана Баторыя ды Фонду культуры і пад ганаровым шэфствам прэзідэнта горада Любліна тэатр наладзіў цыкл сустрэч з творцамі і літаратурнымі крытыкамі. Спадарожнічаюць ім выстаўкі мастацтва ды фатаграфіі, тэатральныя спектаклі ці відэафільмы. Цыкл гэты называецца „Сустрэчы культур”. Удзельнікамі першай серыі „Сустрэч” (верасень—кастрычнік г.г.) былі прадстаўнікі інтэлектуальных і мастацкіх асяроддзяў Нямеччыны, Украіны, Беларусі, ромаў і крымскіх татараў.

Я прысутнічала на дзвюх вечарынах, прысвечаных культуры Беларусі (11—12 кастрычніка г.г.). Сустрэча з беларускай культурай была вынікам асабістага кантакту аднаго з арганізатараў з прадстаўнікамі менскага інтэлектуальнага асяроддзя. Таму, магчыма, удзельнікі гэтых спатканняў з беларускага боку не самыя выдатныя вучоныя ці паэты Рэспублікі Беларусь. Але спадабалася мне выстаўка карцін маладога і прыгожага мастака — Міхаіла Анемпадзістава. Тэмай большасці ягоных прац быў... пацук, у дадатак персаніфікаваны. Быў чытаючы пацук, пацук з марожаным, пацук-п'яніца, маладыя пацучаняты. Некаторыя з гэтых карцін мелі забаўныя надпісы лацінкай на беларускай мове. Свае захапленне пацукамі аўтар выстаўкі тлумачыў тым, што ён, таксама як гэтыя звяркі, жыве ў горадзе, а сам пацук — стварэнне вельмі таямнічае ды інтэлігентнае. Выстаўка атрымалася манатэмная, але ўсё ж такі цікавая,

*Працяг на стар. 9*

# Юбілей Надзеі Артымовіч

29 кастрычніка г.г. у Беластоку Літаратурна-мастацкае аб'яднанне „Белавежа” святкавала 25-цігоддзе паэтычнай творчасці Надзеі Артымовіч. Дзень раней выйшаў з друку новы яе зборнік „Дзверы”. У ім памяшчаюцца творы Н. Артымовіч і А. Разанава. У сувязі з гэтым арганізатары прадбачылі таксама прысутнасць Алеся Разанава. Аднак з-за складанага падарожжа паэт не даехаў на час.

На сустрэчу з бельскай паэткай з'явілася многа паклоннікаў яе таленту. Амаль уся ўвага ў дыскусіі накіравалася ў бок зборніка „Дзверы”. Надзея Артымовіч прачытала таксама свае вершы. Можна было набыць новую кніжку з аўтографам паэткі. Зборнік „Дзверы” і юбілей Надзеі Артымовіч — з'ява каштоўная і непаўторная ў беларускім літаратурным свеце.

**Г. К.**

# ІКОНЫ

### Частка X

У далейшым цытую выказванні пераселеных у Бандары жыхарак Лукі, Гарбароў, Рудні, Боўтрыкаў і Будаў.

„— Ну, вы тут гаворыце аб старых і новых іконах. А тут між вамі я хібо найстарэйша то і найбольш помню. То я вам скажу, што калісь то пачці што ўсе іконы былі дзераўляны. То ж ведомо, папяровае чы сцеклянае іконы, то ніхто ў Сібір і назад не звазіў бы, бо яна парвалася або пабілася б. То ўсе беженцы бралі іконы дзераўляны. Ну, а ўжэ после, яшчэ за тае Польшчы, то пашла мода на іконы паперовы ў рамках. А тыя дзераўляны то выносілі людзі і вешалі або ў свернах, або ў клунях. Ну, а так можэ лет трыццаць таму, а можа дваццаць то пачалі на вёсках ездзіць і цыганы, і палякі, а можа нават і нашы людзі і пачалі выдурваць ад людзей старыя дзераўляны іконы. Нашы людзі то іконаў не прадавалі, бо гэто грэх, але ахвотна мянялі на гэты, ну на плястіковы. Ну і шо вы думаеце, гэтых дзераўляных іконаў то мало дзе засталосе. А от бачыце, і тут пан Баршчэўскі нам говорыт, што дзераўляны іконы найважнейшы і што ў ніякім разе не трэба іх пазбывацца, бо яны вельмі цэнны. І мне здаецца таксамо, што такая дзераўляна ікона, катора перавісела можэ якіх сто або дзвесце лет, намного важнейша, чым тая плястікова. Ну, але ўжэ гэты наш разгавор то ён запозно адбываецца, бо ведомо, што спекулянты пачці што ўсе дзераўляны іконы павыдурвалі. Але штоб тут гаварыці пра звыклых людзей. То ж вы паглядзеце ў цэрквах. Калісь то былі ўсе дзераўляны, а цяпер то ўжэ іх і следу німа. Я і сама ні знаю ў чым дзело. Спекулянты чы зладзеі і там дабраліся?..

— Калі вас так інтэрэсуе ўсё тое, што звязано з іконамі то я вам падкажу яшчэ адно здарэнне, каторэ, як хочаце, то можэце сабе апісаці ў ксёнжачцы або ў газэці. Гэто было так: лет дзесець а можэ і крыху менш таму ў Луцэ загарэўся пажар. Запалілася клуня Кавалёваго Колі. То ж вы напэўно его знаеце, бо его дачка вучылася ў Варшаві і навет гаварыла мне, што спатыкалася з вамі, ну ў тым універсыцетові, чы як его там. Ну то, значыцце, не ведомо з чаго загарэлася ў яго велізна клуня з сеном і збожом. Агонь быў такі, што ніхто не мог падступіцца і на кільканаццаць мэтраў. То што ж там можно было зрабіці з вядзерком вады? А тут падняўся такі вецер, што агонь так несло, што і за пяцьдзесят мэтроў магло падпаліці будынкі. Ведомо, што Колевы будынкі стаялі ў канцы вёскі. З пачатку то вецер дуў ад Дворыска і ўсё агонь у бок Бандароў. Але да Бандароў цэла верста, то і беды ніякае не было. Аж раптом вецер павярнуў і пачаў дуць у сторану Лукі, а там пачці ўсе клуні саломаю крыты. Божа мілы, стаімо мы поўмертвые і толькі жджэм, калі Лука загарыцэ. І тут раптом выбегае з-за плота Олюшка (Ольга Жукоўская). Мы паглядзелі і ўсе ахнулі. Дзело ў тым, што Олюшка выбегла поўнасцю гола. Выбегла, як то гаворыцэ, як маці яе нарадзіла, галюткая, а ў руках трымае над галавою ікону. А полыме так бузуе, што аж страх глядзець і нясе агонь на Луку. Олюшка абышла кругом пажару адзін раз, а агонь не перастае несціся на Луку. Абышла Олюшка другі раз клуню і агонь адхіліўсе ад Лукі і пайшоў слупом уверх. Абышла Олюшка стадолу трэці раз і раптам падуў вецер ад Дворыска, агонь пахіліўсе ў бок Бандароў і так ужэ было да канца пажару. Праўда, агонь не пагас і клуня Колева згарэла, але вёска Лука засталасе цэла.

Ну, ведомо, некаторые маладые то навет смяялісе, што моў Олюшка паказвае сваю голу красату, але я веру, што гэто яна сваею іконаю адкінула агонь у другі бок і Лука засталася цэла.

Калі б вы, пане Баршчэўскі, не верылі, то можаце пайсці да Олюшкі, яна ж тут па-суседску жыве і самі яе спытайце, як гэто ўсё было.

Я заўшэ верыла ў моц іконы, а после гэтого выпадку, то веру яшчэ больш".

**Алесь Барскі**

# СЛОВА БОЖАЕ НА НЯДЗЕЛЮ

### Аздараўленне гадарынскіх звар'яцелых

У 21 нядзелю пасля Пяцідзесятніцы вернікам прапануецца ўрывак з 8 раздзела Евангелля паводле Лукі (8:26—39). У ім гаворыцца пра цуд аздараўлення ў паганскай гадарынскай зямлі апантанага нячыстым духам чалавека. У аналагічных апавяданнях у Евангеллях паводле Мацвея — у 8 раздзеле і ў Марка — у 5 раздзеле, гаворыцца пра двух людзей. Выгнаўшы нячыстыя духі з апантанага імі чалавека, Хрыстос перанёс чарцей на свіное стада, якое кінулася з кручы ў мора і патанула. Даведаўшыся ад пастухоў пра страту, „народ гэтай краіны прасіў Хрыста пайсці ад іх, бо зняў іх вялікі страх".

У наш скептычны час апавяданне пра апанаваных чэрцямі можа выклікаць пагардлівую ўсмешку. Варта аднак памятаць, што ў тую бурную, крытычную эпоху, гэтак як і ў наш час, псіхічныя хваробы былі асабліва пашыраныя. Адной з іх была гэтак званая „апантанасць", калі чалавек адчуваў пакутлівае раздваенне самасвядомасці. Хворыя адчувалі сябе як быццам у іх пасяліўся нехта іншы; крычалі не сваім галасам, вылі і рагаталі, палохаючы людзей. Гэтая страшная хвароба абумоўлена была грэшнай атмасферай таго часу, калі сапраўды легіёны цёмных сілаў, прадчуваючы сваю блізкую гібель, выйшлі на прастор зямлі.

У Евангеллі аздараўленне Хрыстом гэтых няшчасных людзей мела яшчэ другі аспект. Людзі, якія былі сведкамі цуду, не рады былі аздараўленню. Хаця атрымалі неаспрэчны доказ моцы і міласэрнасці Хрыста, аднак страта свіней была для іх важнейшая. Зямныя справы і турботы ўзялі верх над духоўнымі. Праяўленне звышнатуральнай моцы выклікала хвалю забабонаў і боязі. Прысутнасць гэтага чужаземца магла прывесці да наступных бедаў і яны папрасілі няпрошанага госця пакінуць іх. Такім чынам з прычыны чалавечай дробязнасці ласка адступіла ад іх...

У наш час таксама ёсць цэлае мноства людзей, якія адмаўляюцца ад Хрыста і ад Царквы, каб пазбегнуць маральнай вуздэчкі, дадатковых абавязкаў і абмежаванняў. У нядзелю тысячы людзей даўжэй спяць, глядзяць тэлебачанне або выязджаюць за горад. Ад гэтых прыемнасцей і звычак мноства людзей ні за што не хоча адмовіцца. Неаднойчы прыналежнасць да нейкай Царквы вяжацца з непасрэднымі выдаткамі і затратамі. У Нямеччыне кожнага, хто пачынае працу, пытаюць да якой ён належыць Царквы. Калі належыць, дык ад штомесячных заработкаў яму адцягаюць каля 4 працэнты падатку на Царкву. Апошнімі гадамі назіраецца, што людзі, каб не плаціць падаткаў, каб пазбегнуць матэрыяльнага ўрону проста выпісвацца са сваіх Цэркваў.

Евангелле вучыць, што чысціня душы і сейная вартасць непараўнальныя з іншымі каштоўнасцямі. „Якая ж карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а душы сваёй пашкодзіць. Дый які выкуп дасць чалавек за душу сваю?" Хрыстос вучыў, што пры хуткабежнасці і нясталасці зямнога жыцця, збаўленне душы застаецца адзінай мэтай дзеля якой варта пайсці на любыя ахвяры...

Калі англійскі кароль Генрых VIII парваў на пачатку XVI стагоддзя зносіны з Рымам, ён загадаў паддадзеным прызнаць яго начальнікам незалежнай англіканскай Царквы. Супрацівіліся гэтаму: біскуп Фішэр і канцлер Томас Мур. Абодвух непакорных кароль пасадзіў у турму. Пасля некалькіх месяцаў біскуп Фішэр быў абезгалоўлены і такі самы лёс чакаў канцлера. Жонка і дзеці ўмалялі яго пакарыцца каралю і ратаваць жыццё. „А як жа доўга я мог бы яшчэ пажыць?", — спытаўся канцлер у жонкі. „Прынамсі з дваццаць гадоў", — адказала яму. „Калі б хаця тысячу, а так, ці ж за дваццаць гадоў жыцця я маю страціць вечнасць?" Нязломны канцлер развітаўся з сям'ёю і неўзабаве прыняў пакутніцкую смерць.

Магчыма, што ў сваім жыцці мы ніколі не будзем пастаўлены перад такім драматычным выбарам. Праўдападобна, большасць з нас гэтак дэманстратыўна як евангельскія гадарынцы ніколі не адмаўляліся ад Хрыста. Магчыма, што дзеля блізарукай карысці ніколі не будзем выпісвацца са сваіх Цэркваў, застаючыся аднак толькі намінальнымі членамі.

Такім чынам выбар каштоўнасцей у жыцці, паміж імгненным сучасным і вечнасцю, застаецца далей актуальным.

**а. Канстанцін Бандарук**

## МОЛАДЗЬ НА МОГІЛКАХ

Ініцыятарамі рэстаўрацыі старых могільнікаў ёсць Культурная супольнасць „Барусія" з Ольштына і Хрысціянская ініцыятыва для Еўропы з Дрэздэна. У мінулым годзе могільнікі ў Дрвэнцы парадкавалі маладыя немцы і палякі, а ў гэтым паявілася моладзь іншых нацыянальнасцяў. Праца пры парадкаванні могільнікаў не была адзінай мэтай лагера. Найважнейшы ёсць кантакт маладых з сябрамі іншых нацыянальнасцяў, абмен вопытам, размовы на тэму сваіх культур, абычаяў, ломка стэрэатыпаў. У мінулым годзе ў Ахене і Кёльне пабывалі на запрашэнне Хрысціянскай ініцыятывы дзесяць маладых палякаў. Там наведалі могільнікі ў Галандыі і Бельгіі. Арганізацыя ICE заснаваная езуітамі, але ў яе ўваходзяць католікі, евангелісты і іншыя.

У гэтым годзе ў альштыньскім лагеры ўдзельнічала 5 асоб з Менска, 3 з Латвіі, 10 з Нямеччыны і 35 маладых людзей з Ольштына. Яны разам працавалі і адпачывалі. Жылі ў пачатковай школе ў Шкотаве. Удзельнікі ўдзячныя войту Казлова за магчымасць закватаравання, леснікам з Нідзіцы за драўніну на сем крыжоў і за транспарт.

Спатканні такога тыпу спрыяюць пазнанню маладых, талерантнасці і пашане традыцыі.

**Андрэй Гаўрылюк**

# „Сустрэчы культур" у Любліне

*Працяг са стар. 8*

створаная мастаком спецыяльна для гэтай сустрэчы. Анемпадзістаў прачытаў таксама некалькі сваіх вершаў, напісаных у якасці тэкстаў для сучасных беларускіх рок-гуртоў.

Аднолькава чароўны (калі казаць пра прыгажосць) быў і другі паэт, хаця не жывапісец, Леанід Дранько-Майсюк. Ягоныя вершы, прысвечаныя галоўным чынам жанчыне, а ўласна кажучы, многім жанчынам, выклікалі жывое зацікаўленне. Пасля патэтычна зачытаных паэтам радкоў: „Пані Дарота...", „Аню..." і гэтак далей, з цалкам празаічным пытаннем выступіў адзін са слухачоў. Малады чалавек спытаўся Дранько-Майсюка, ці ягоныя творы гэта вынік яго ўласнай практыкі, ці толькі мараў? Пытанне гэтае выклікала смех слухачоў і збянтэжыла аўтара. Дранько-Майсюк пачаў супрацьўляцца, каб не называць яго донжуанам, але ў рэшце рэшт прызнаўся ў тым, што любоў да жанчыны — гэта сапраўды найважнейшая ідэя ў ягоным жыцці.

З зацікаўленнем быў прыняты падрыхтаваны Беларускім тэатрам аднаго акцёра „Зніч" спектакль паводле Уладзіміра Караткевіча „Дабравесце ад Уладзіміра". Над пастаноўкай працавалі: рэжысёр і мастак-дэкатар — Уладзімір Матросаў; адзіны выканаўца — вельмі адораны, на мой погляд, акцёр Валеры Шушкевіч; кампазітар цудоўнай музыкі — Алег Залётнеў. Змест — у палове гістарычны, у палове — алегарычна-рэлігійны. Можна было заўважыць таксама элементы фальклору. Усё разам: цікавая п'еса аб нацыянальнай тоеснасці беларусаў. А для непадрыхтаванага ў сферы беларускай мовы і культуры гледача быў гэты спектакль таксама проста смешны.

Менш цікавае было спатканне з галоўным сакратаром Беларускага цэнтра ІТІ (Міжнароднага тэатральнага інстытута) — Антанінай Міхальцовай і Вацлавам Валадзько — працаўніком Міністэрства культуры і друку Беларусі. Некалькі агульных сказаў пра беларускі тэатр учора і сёння, прэтэнзіі да палякаў, што мала цікавяцца беларускай драматургіяй, кароткая спрэчка ў справе Міцкевіча і спроба аднаго слухача абвяргнуць міф аб пакрыўджанні беларусаў як расейцамі, так і палякамі.

Затое больш зацікаўлення вы-клікаў у гледачоў запісаны на відэаплёнцы, хаця без аднаго слова на беларускай ці на якой-небудзь іншай мове, спектакль „Запіскі вяр'ята" — лаўрэат „Гран-пры" на І Міжнародным фестывалі тэатраў аднаго акцёра ў Менску ў 1993 годзе.

Абыду маўчаннем выступленне тэатральнага крытыка Жаны Лашкевіч, таму што пасля трох гадзін вечарыны не хапіла мне, як, зрэшты, большасці прысутных, сіл выслухаць яшчэ і той выклад.

Аднак дадам, каб ніхто не зразумеў мяне дрэнна: я з усяго сэрца падтрымліваю ідэю „Сустрэч культур". А ўсялякія спрэчкі, па-мойму, няўхільны пры сутыкненні дзвюх, не аднолькавых жа, нацый і культур.

**Б. Г.**

# Сустрэча з настаўнікамі

17 кастрычніка г.г. у Епархіяльным цэнтры Беластоцка-Гданьскай епархіі адбылася сустрэча Яго Праасвяшчэнства Архіепіскапа Савы з катэхетамі і настаўнікамі з Беластока з нагоды Дня нацыянальнай адукацыі. Мэтай сустрэчы быў абмен думкамі наконт навучання праваслаўнай рэлігіі ў пачатковых і сярэдніх школах.

Архіепіскап Сава павіншаваў сабраных са святам, пажадаў ім плёну і падзякаваў ўсім катэхетам за іх працу на ніве навучання рэлігіі, а таксама падкрэсліў важнасць гэтай працы для нашай Царквы. Звяртаючыся да настаўнікаў сярэдніх школ і вышэйшых навучальных установ, Уладыка сказаў, што разлічвае на заўвагі і парады, а таксама выказаў спадзяванне, што гэтае спатканне стане пачаткам больш сістэматычных кантактаў з педагогамі.

Падчас дыскусіі катэхеты абменьваліся ўражаннямі ад сваёй працы, у якой хапае і цяжкіх момантаў, побач тых станоўчых, стваральных. Многае залежыць ад саміх катэхетаў, ад іх ангажыроўкі і вынаходлівасці. Гаварыў аб гэтым і Архіепіскап Сава, які падкрэсліў, што не трэба цвёрда трымацца праграмы, але прыстасоўваць яе да існуючай рэчаіснасці.

У час спаткання адбылася прэзентацыя кнігі Уладыкі Савы „Праваслаўнае разуменне шлюбу". Рэдактарам гэтага выдання з'яўляецца д-р Янка Зенюк, а выдаўцом — Праваслаўнае брацтва святых Кірылы і Мяфодзія. Кніга мае два раздзелы: „Сутнасць шлюбу" і „Царкоўныя законы аб шлюбе" і напісана яна была як доктарская дысертацыя Архіепіскапа Савы, тады яшчэ архімандрыта і адначасна рэктара Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Яблачыне.

Названае выданне можна рэкамендаваць усім, паколькі змяшчае яно ў сабе падрыхтовачны і пазнавальны матэрыял. Купіць кнігу можна ў кіёсках Брацтва: на могільніку Усіх Святых на Выгодзе і пры Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку, а таксама ў цэрквах.

**С. Сулковіч**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ (10)

## Адкуль узяліся назвы вёсак?

**Случанка** — тапанімічная назва ад рачулкі *Случанкі*, левага прытока Супраслі. Каля згаданай вёскі рака Супрасль бярэ круты паварот. У славянскай мове *слукій* абазначае сагнуты, крывы, а ў праславянскай *слук* — гэта не інакш як вільготны. Тапароў і Трубачоў высунулі гіпотэзу аб балтыйскім паходжанні назвы.

Пасяленне з канца XVII стагоддзя. Яно значыцца ў дакументах ад 1784 і 1795 гадоў. У 1905 годзе ў Случанцы пражывалі 343 чалавекі, у 1910 годзе — 352 і ў 1925 годзе — 212. Напярэдадні другой сусветнай вайны сяло налічвала 218 асоб. Цяпер тут пражываюць 102 асобы.

**Страшава** — прыналежная назва ад асабовай Станіслаў — *Страш* (заметка: „...грунт боярина волпенского Страша" — знаходзіца ў рукапісным дакуменце ад 1567 года). Звесткі пра Страшава знойдзем таксама ў дакуменце ад 1784 года, а таксама ў алфавітных паказальніках 1921 і 1924 гадоў.

Страшава — невялікае сяло над безыменным ручаём, правым прытокам Супраслі. У 1938 годзе ў ім пражывалі 77 чалавек. Цяпер гэта салэцкая вёска з 74 жыхарамі.

**Юзэфова** — мемарыяльная назва ў гонар *Юзэфа* з Маругаў, уладальніка фальварка ў другой палове XIX стагоддзя. Пасяленцы прыбылі тут з Курылаў і Азяблаў. У 1905 годзе ў вёсцы пражывала 197 чалавек, у 1910 годзе — 74, у 1926 годзе — 62 і ў 1938 годзе — семдзесят. Перад другой сусветнай вайной была тут школа, у якой навучалася ў сярэднім 26 дзетак. У 1962 годзе было тут дзесяць хатаў і 36 жыхароў. Цяпер вёска мяжуе з Крынкаўскай гмінай і прыжывае ў ёй усяго 23 чалавекі.

**Ярылаўка** — прыналежная назва ад асабовай *Ярыла (Яравой)*; у беларускай мове *яры* — гэта моцны, дужы, раз'юшаны, поўнасцю аддааны. Варта дадаць, што ў 1679 годзе кароль Ян III Сабескі даў вёску Лужаны ва ўладанне татарскаму палкоўніку Самуілу Кшачоўскаму. Татары пасяліліся таксама ў Ярылаўцы.

У 1921 годзе была тут вёска і фальварак. Да нашых дзён яшчэ захаваўся тут дворскі парк. Зараз у вёсачцы пражывае 25 чалавек, з якіх большая частка гэта прастарэлыя людзі. Найстарэйшы жыхар вёскі — Мацей Шапель 1903 года нараджэння.

### Прыродныя ўмовы

Гарадоцкая гміна займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў. Яна распасціраецца на лёгка- і сярэднеўсхваляванай нізіне ледавіковага паходжання, якая знаходзіцца ў сярэднім на вышыні 124—210 метраў над узроўнем мора. Выступаюць тут марэны, камавыя ўзгоркі, озы і зандры.

Найбольшыя высоты сустракаюцца каля Калоднага (Копная гара — 210 метраў н.у.м.) і каля Каралёвага Моста (Гара святой Анны — 209 метраў н.у.м.) ды крыху меншыя высоты каля Лужанаў і Баброўнікаў — 195 метраў н.у.м., каля Коматаўцаў — 188 метраў ды ў наваколлі вёсак Свіслачаны, Залёная і Падазераны — 185 метраў н.у.м.

Найніжэйшыя высоты сустракаюцца ў далінах рэк Супрасль (140 метраў н.у.м.), Плоска (131 м) і Свіслач (128 м н.у.м.). У тым месцы, дзе прыток Плоска ўпадае ў Супрасль вымерана высату ўсяго 124 метры н.у.м. Розніца высотаў — 86 метраў (для параўнання ў суседняй Міхалоўскай гміне — 57 метраў). Наогул рэльеф не стварае перашкод у развіцці сельскай гаспадаркі.

Галоўнай водная артэрыяй, якая збірае ваду з 2/3 тэрыторыі Гарадоцкай гміны, з'яўляецца рака Супрасль, правы прыток Нарвы. Назва ракі першапачаткова гучала як Sprząsla (1358 год), Spransla (1437 год) і паводле Яшуньскага з'яўляецца вынікам беларускага развіцця старажытнай славянскай формы * Są-pręd-slь>Są-preslь> Suprašl (Супрасль).

Ёсць і другое паясненне паходжання назвы ракі. Назва Супрасль складаецца з прыстаўкі „су-", якую маем у беларускіх словах: „сусед", „сутока" (зліццё дзвюх рэк) і інш. Корань „пронд- // прэнд-" заключае ў сабе значэнні „скакання, дрыжання, напружання", вось хоць бы ў такіх беларускіх словах, як: пружына, пругкая дуга і г.д.

Супрасль выплывае з багнаў, што знаходзяцца на поўнач ад вёскі Тапаляны, віецца сярод лугоў і лясоў сённяшняй Кнышынска-Беластоцкай пушчы, каб уліць свае воды ў раку Нарву. Даўжыня яе цячэння 92 кіламетры, а плошча вадазбору — 1 856 квадратных кіламетраў. Спакойная гэта рака, бо нават у самае вялікае веснавое разводдзе ўзровень вады падымаецца ў ёй на 2 метры вышэй летняга.

Гарадоцкая гміна цягнецца ад дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь ажно пад Беласток, ад Бабpоўнікаў да Маёўкі — за 42 кіламетры. Знаходзіцца яна ў паласе сярэдняга клімату. Вегетацыйны перыяд прадаўжаецца каля 200 дзён, пачынаючы з другой паловы красавіка. Сярэдняя сума ападкаў — каля 640 мм у год. Такой іх колькасці хапае для росту ўсіх сельскагаспадарчых культур.

Дамінуючымі з'яўляюцца слабыя і сярэднія цыкланальныя вятры заходняга напрамку. Яны прыносяць найбольшую колькасць ападкаў, удзельнічаючь паніжэнню тэмпературы ў цёплы перыяд года і яе павышэнню ў халодны.

У гміне вялікі лясны комплекс Кнышынскай пушчы. Лясы займаюць 57% яе тэрыторыі. Яны пераважна дзяржаўныя і належаць надлясніцтвам Валілы і Жэдня. Ёсць у пушчы пяць „гаёвак" і столькі ж „ляснічовак" ды лясныя вузкакалейкі. Ступень аблесенасці ў гміне не аднолькавая — выступаюць даволі вялікія суцэльныя комплексы, шмат пасадак і маладняку, але выступае і бязлессе. Яшчэ і зараз сотні гектараў слабой зямлі ідуць пад аблясенне. Прадбачваецца пасадка лесу на 1 740 гектарах.

Сярод выступаючых тут парод дрэў першае месца займае сасна — 70%, затым елка — 17%. Не выступаюць бук, піхта і явар — дрэвы, якія вельмі часта можна сустрэць у іншым рэгіёнах нашай краіны.

У Кнышынскай пушчы, між іншым, ва ўрочышчы Радунін, можна сустрэць зуброў (сюды іх прывезлі ў 1975 годзе), рысяў, ваўкоў і баброў. У катлавіне-мульдзе на поўдзень ад Гарадка гняздуюцца кнігаўкі, кулікі і бакасы. Для птушак якраз тут, у маляўнічых урочышчах, вельмі добрыя прыродныя ўмовы для жыцця.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# Дзеці з Салігорска ў Старыне

Так, адтуль, а не з-пад Чарнобыля. Менавіта з Салігорска, аб якім спяваліся песні і ставіліся п'есы, у якім у шасцідзесятыя гады вучоныя адкрылі вялізныя залежы калійных соляў, і на солі стаў горад. Здаецца, усе павінны цешыцца, што ў Беларусі знайшоўся такі скарб, але якраз ён давёў гэтую тэрыторыю да страшнага забруджання і хвароб жыхароў. Ахвяры ёсць перш за ўсё сярод дзяцей. Менавіта група такіх дзетак (34 хлопчыкаў і дзяўчатак ва ўзросце ад 7 да 15 гадоў) з небяспечным сімптомам малакроўя прыехалі лячыцца ў чыста экалагічную вёску Старыну, што ў гміне Дубічы-Царкоўныя. Прыехалі з васьмю апекунамі — урачамі і настаўнікамі адпачываць і лячыцца на дваццаць дзён. Вёска Старына — вельмі чыстая вёска. Дзеці жылі ў былой школе. Усе вельмі добра сябе адчувалі і таму, што і маглі пагаварыць з добрымі людзьмі, жыхарамі вёскі — беларусамі.

Кіраўніком групы і галоўным урачом быў фітатэрапеўт, спецыяліст па лячэнні зёлкамі, Яўген Пятровіч Шмерка. З ім калісьці пазнаёміўся ў Салігорску наш бізнесмен з Грабаўца, спадар Сяргей Нічыпарук, старшыня Гміннай рады ў Дубічах-Царкоўных. Дакумент аб супрацоўніцтве з Міжнароднай гуманітарнай арганізацыяй па справах лячэння алергічных хвароб у дзяцей ахвотна падпісаў войт Дубіцкай гміны сп. Анатоль Паўлоўскі. Таксама і бацюшка Віталій Гаўрылюк горача падтрымаў гэту вельмі каштоўную ініцыятыву дапамогі хворым дзецям.

Кошты прабывання дзяцей пакрыла ўспомненая арганізацыя. А галоўнае — цеплыня і дабрата прыёму.

Дзеці з апекунамі былі ў нашай царкве і дзівіліся, што служба ў храме выглядае так як і ў іх. Спадар Сяргей Нічыпарук, выпускнік варшаўскай семінарыі ахвотна і дакладна адказваў на ўсе пытанні, якія датычылі і рэлігійных спраў.

Некаторыя дзеці былі ўжо і ў Італіі, і ў Грэцыі, але, як гаварылі, вельмі ў Старыне ім падабалася. Спецыяліст па лячэнню травамі, прафесар Шмерка, сцвердзіў, што ў пушчы і наваколлі сустрэў унікальныя віды і пароды траваў. Пры дапамозе Дубіцкай гміны хоча ён стварыць Фундацыю лячэння зёлкамі ў Старыне. З такой лячэбніцы людзі шмат скарысталі б — і мясцовыя, і турысты.

**Мікалай Панфілюк**

# ЗВЕРСТВА І ЖЫВЁЛА

Нядаўна ўсе цывілізаваныя жыхары Зямлі святкавалі Сусветны тыдзень жывёл. Пра гэта шмат пісалася ў прэсе, дэманстраваліся перадачы і фільмы ў сродках масавай інфармацыі. У магазінах поўным ходам ішоў шырока разрэкламаваны продаж смакоццяў для хатняй жывёлы. Адсвяткавалі.

Наштодзень сустракаемся мы аднак з неаднолькавымі адносінамі чалавека да жывёлы. Адны распешчваюць сваіх сабак і кошак, больш за сябе, іншыя з асалодай здзекуюцца і забіваюць іх. Самая прыказка ў нас „Паступіў горш як з сабакам" гаворыць сама за сябе.

Мірон з Б. гадаваў сабак. Распешчваў і пас іх на здзіў аднавяскоўцам.

— Накупіць тых кансерваў з тэлевізара (пэдыгры-пал, вядома) корміць іх па адной костцы ўдзень, а да бульбы яшчэ яйкі ўбівае, — паўтаралі суседзі.

Мірон не рабіў гэтага бескарысна. Калі сабакі набралі адпаведную вагу, уласнік усіх іх павесіў. Зацікаўленым расказваў, што сатысфакцыя ад гэтага ў яго большая, калі галлё ўгінаецца.



*Цешыць таксама тое, што многія любяць сваіх жывёл.*

Вялікую асалоду і пацеху ад мучэння жывёлы адчуваюць многія дзеці.

Малалетнія гарадскія жэўжыкі толькі і сочаць за бяздомным коцікам. Потым з асалодай расказваюць у школе на перапынках пра тое, як жывцом спалілі ката ці адрэзалі яму лапы. Аднагодкі, якія не захапляюцца расказамі, могуць спадзявацца падобнай пашаны.

Сцёпка з Б. любаваўся, вешаючы галубоў. У вёсцы хутка не стала гэтых „святых птушак". Тады пачалі прападаць каты. Найчасцей вяскоўцы знаходзілі сваіх катоў у кустах, павешаных на ўсякія магчымыя спосабы. Праўда, дзяўчаткі празываліся яшчэ доўга на Сцёпку „Кацячая смерць", але той ажаніўся, нават мае гаспадарку.

Ігнат з Б. быў вегетарыянцам. У гэтай справе стаў мясенерам. Кожны, хто яму папаўся, мусіў выслухаць даклад „аб шкоднасці мяса" і „пашане ўсяго жывога". Не мяшала гэта яму разбураць гнёзды варонаў, каршуноў, вераб'ёў. Хваліўся ён, што каршуна ў іхняй вёсцы ніхто больш не пабачыць.

Не менш крывадушна паводзяць сябе жыхары гарадоў. Радэк з В., будучы ў алкагольным экстазе, выкінуў ката з дзесятага паверха. Хацеў пераканаць сваіх знаёмых, што кот заўсёды „падае на чатыры лапы". Разбітая кошка ляжала тыдзень перад блокам.

Уражвае таксама каларытнасць лаянкі ў бок кароў.

Антон з Б., непітушчы, прыкладны бацька і муж, вядомы і тым, што забіў у злосці сваю карову.

— Калі пачынаю біць, то хочацца мне яшчэ больш лупіць, — тлумачыў адчайнай жонцы і дзеткам.

Юрка з Р. лупцаваў сваіх старэнькіх бацькоў, шукаў зачэпкі на ўсіх вясковых забавах. Праславіўся ў наваколлі аднак тады, калі вырваў свайму каню абцугамі язык. Па жаданню перапалоханых насмерць бацькоў ветэрынар „усыпіў" каня. Падобныя выпадкі можна прыводзіць у бясконцасць. Цешыць толькі тое, што здзек над жывёлай забаронены законам. Аднак пра пакаранне злачынства найчасцей пачуем у тэлебачанні.

**Ганна Кандрацюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Што абазначае, калі прысняцца дзверы? Мне ў адным сне два разы прысніліся дзверы, але якія... Быццам бы зверху яны прычэплены, а чым больш уніз, тым яны робяцца танчэйшыя, як бы з нейкага ламінату ўсяго, і гэты ламінат тоненькі-тоненькі. Вецер махае гэтымі дзвярыма, і яны выгінаюцца, так што ад нізу можна лёгка ўвайсці ў хату, хаця дзверы зачынены. Мне неяк страшна.

А маёй дачцэ ў тую ж ноч прыснілася, што ў маёй хаце нехта мые кухоннае акно. Дзве жанчыны — адна з аднаго боку, другая — з другога — чысцяць шыбы. Пасля дачка бачыць, што адна мые акно, а другая трымае ў жмені фіранку. І мая дачка падумала: ці ж нельга было б такую чысценькую фіранку зняць... Ды і наогул навошта мыць вокны, калі зусім нядаўна іх мылі...

Дапамагу табе, Астроне. Пасля гэтых нашых сноў зладзеі ўзламаліся ў наш гараж (ён вялікі, супольны — на 10 самаходаў), разбілі і абакралі тры самаходы, а адзін — укралі зусім. А нашага не кранулі, бо а чацвертай раніцы выйшла якраз суседка з сабакам, і той сабака адразу пабег да гаража. Зладзеі перапужаліся і ўцяклі. Наш самаход, на шчасце, застаўся цэлы. Я думаю, што гэтыя сны сніліся нам, прадвяшчаючы тое непрыемнае здарэнне.

**Анна**

Анна! Ты, бадай, маеш рацыю. Дзверы і вокны ў снах вельмі сімвалічныя. Дзверы адкрытыя сніць — поспех і сардэчны прыём; зачыненыя — расчараванне і непрыемнасць. Акно сніцца на нейкі смутак. Твае дзверы былі невядома якія. Яны былі нібы зачыненыя, але ўнізе пад імі гуляў вецер, яны былі тоненькія і ў іх лёгка было ўвайсці злодзею ці бандыту. Дык не дзіва, што табе было страшна. У гэтым выпадку чыстае акно магло прадвяшчаць тое, што твайго самахода не крануць.

**АСТРОН**

*ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ*

## Прыкметы галадання пладовых дрэў

Важнейшым элементам, якога часцей за ўсё не хапае ў садах, з'яўляецца азот. Пры азотным галаданні лісце робіцца светла-зялёнае, паслабляецца рост парасткаў, змяншаецца ўраджайнасць.

На лёгкіх жа глебах часцей можна сустрэць недахоп калію. Пры гэтым лістота таксама набывае светла-зялёную афарбоўку, затым з'яўляецца як бы апёк — па краю лістоў відаць барвовую паласу, якая затым адмірае.

Недахоп фосфару ў садах назіраецца намнога радзей.

На пясчаных глебах можа быць хлароз лістоты — з-за недахопу магнію. Паміж жылкамі ліста зялёная афарбоўка знікае, адбываецца абясколерванне, а зытым і адміранне. Хвароба гэтая размнажаецца з ніжніх лістоў парастка.

Пры недахопе бору ўзнікае хвароба акаркавення пладоў. У яблыках і грушах утвараюцца сухія акаркавелыя ўчасткі мякаці. Плады тады пакрываюцца трэшчынамі і ападаюць.

Калі прымяняць мінеральныя і арганічныя ўгнаенні, расліны не хварэюць, добра растуць і пладаносяць. Аднак трэба памятаць, што празмернае ўгнаенне таксама можа прынесці шкоду. Так, пры шчодрай падкормцы азотам дрэвы пазней уступаюць у пару плоданашэння, зніжаецца зімаўстойлівасць. А пры лішняй колькасці калійных угнаенняў на пясчаных глебах можа з-за недахопу магнію развівацца хлароз. Пры лішняй дозе фосфарных угнаенняў можа выступіць недахоп цынку, што прыводзіць да разетачнасці, гэта значыць да ўтварэння дробных цёмна-зялёных лісцяў на ўкарочаных парастках. Пры лішнім вапнаванні можа назірацца недахоп цынку, бору і жалеза. Недахоп жалеза развівае хлароз лістоў. Пры недахопе жалеза хлароз з'яўляецца спачатку на лістах вярхушкі парасткаў. Гэтым ён адрозніваецца ад хлароза пры магніевым галаданні.

**ЯСЕНЬ**

## Краска пад пагрозай

Краску, экзатычную для нас птушку, бачыў я, калі быў на адпачынку ў Відаве. Гэта птушка велічыні галкі, пакрытая пер'ем сіняга колеру, толькі верх цёмна-аранжавы і кончыкі крылля чорныя; добра яе відаць на зялёным фоне лугоў і лясоў. Другая назва краскі — сінюга.

Краска еўрапейская з'яўляецца адзіным відам сямейства красак, які жыве на нашым кантыненце. Апошнія віды жывуць у тропіках Афрыкі і Азіі. Гэта прыгожая птушка сустракаецца ў апошніх гадах штораз радзей. Старэйшыя людзі помняць яе, як сядзела на тэлефонных дратах ці на ляшках збожжа.

Забруджанне асяроддзя, у якім бытуе краска, прывяло да рэзкага спаду яе колькасці: сёння ў Польшчы, паводле ацэнак арнітолагаў, жыве 200—400 пар красак ва ўсходняй частцы краіны.

Краска жыллём сваім выбірае дуплы ў старых вербах, бярозах, вольхах або соснах, а таксама норы ў запушчаным полі.

З цёплых краін краскі вяртаюцца ў першыя дні мая і адразу пачынаюць токі, падчас якіх самец корміць самку, а таксама выконвае акрабатычныя палёты. Вельмі цікава гэта выглядае: самец набірае вышыні, а пасля імкліва кідаецца ўніз, выконваючы ў паветры розныя эвалюцыі.

Самка зносіць 3—5 белых яечак, з якіх, пасля 19 дзён выседжвання, вылупліваюцца маладыя, якія пачынаюць вылятаць з гнязда, калі ім споўніцца месяц. Кормам красак з'яўляюцца насякомыя, дробныя пазваночныя і ягады.

Асноўнай прычынай знікання красак з нашага краявіду з'яўляецца высечка старых дуплістых дрэваў. Многія з нашых красак падтручваюцца ў Афрыцы, дзе вядзецца барацьба з саранчой пры дапамозе ядахімікатаў. Да гэтага трэба дадаць натуральных ворагаў, напрыклад, куніцы, якім лёгка выкрыць гняздо з крыклівымі птушанятамі. Усё гэта давяло да таго, што краска ў нашай краіне апынулася пад пагрозай поўнага вымірання.

**Андрэй Гаўрылюк**

## І страшна, і смешна

Андрэй К. падаў у суд Юльяна С. за тое, што той амаль насмерць напалохаў ягоную жонку.

Адны лічылі гэта справай нясмешнай, іншых яна сапраўды рассмяшыла.

Жонка Андрэя К., Верка, была жанчынай палахлівай натуры. Сама баялася ісці ў лес па грыбы ці ягады, ноччу лякалася выйсці на двор. На працу не хадзіла на начныя змены.

Летам паехала Верка да сястры ў Францыю, пабыла там два тыдні. Зіна дала ёй прыгожыя, вельмі рэдкага колеру ружы, каб пасадзіла іх на магілцы маці. У той ужо дзень, калі вярнулася з-за мяжы, Верка пайшла на могільнік. Пабыла там даўгавата — пасадзіла кветкі, памалілася, наведала магілкі знаёмых і суседзяў. Не паспела агледзецца, як пачало змяркаць. Са сціснутым сэрцам накіравалася да брамкі могільніка. У браме, скрыжаваўшы рукі на грудзях, стаяў яе сусед, Юльян С.

— Не баішся, Верка, так позна хадзіць па могільніку? — запытаўся.

— Яшчэ ж не так позна, яшчэ ж відна. А вы не баіцеся?..

— Мне няма ўжо чаго баяцца. Як я быў на гэтым свеце, то было чаго баяцца, а цяпер мне ўжо нічога не страшна! А якраз сёння я пайшоў на той свет.

Верка збялела і ўпала ніц. Сусед не мог сам яе ачуціць. Узяў на рукі і пабег у вёску. У бальніцы сцвердзілі інфаркт. Добра, што паспелі з хуткай дапамогай.

Верка ляжала ў бальніцы доўга. Андрэй накіраваў справу ў суд. Некаторыя суседзі лічылі, што зрабіў правільна — трэба караць за такія дурныя жарты, іншыя — смяяліся і казалі, што Юльян не ёсць віноўным у тым, што суседчына сэрца не вытрымала. Суддзя палічыў, што Юльян С., ведаючы пра баязлівасць суседкі, ёсць віноўным яе хваробе. Прыйшлося жартаўніку заплаціць пакрыўджанай немалыя грошы.

**Аўрора**

### З гараскопа друідаў

**ЯБЛЫНЯ** *(25 чэрвеня — 4 ліпеня, 23 снежня — 1 студзеня).* Людзям, якія нарадзіліся ў першыя дні пасля зімовага сонцазвароту, друіды знайшлі адпаведніка сярод дрэў. Прыгожая, прывабная яблыня песціць вока чалавека вясною, шчодра абдорвае сваімі пладамі ўвосень. Яблыкі, відаць, параўноўвалі з сонцам: жыццё адраджаецца ў сакавітым плодзе, сонца адраджаецца пасля „цёмнага часу".

Якімі ж рысамі характару адрозніваюцца людзі-яблыні? Яны прывабныя, здольныя ўзбудзіць думку пра каханне нават тады, калі самі не імкнуцца да гэтага. Наогул, каханне цікавіць іх, некаторыя з іх вельмі сентыментальныя. Яблыня можа рашыцца на сумеснае жыццё таксама і тады, калі не мае да партнёра вялікага пачуцця, але гэта не азначае, што яна выракаецца кахання. Калі ж суджаны адпавядае яе патрабаванням, сямейнае жыццё будзе ідыліяй, бо яблыня заўсёды верная ў каханні. Нягледзячы на, здавалася б, легкадумныя адносіны да жыцця, яблыня — сур'ёзная асоба. Толькі яна мае сваю, адметную філасофію жыцця. Такія людзі вылучаюцца інтэлігентнасцю, логікай думкі, ахвотна вучацца, здабываюць веды ў той галіне навукі, якая іх цікавіць, хочуць заспакоіць сваю цікаўнасць, збіраюць шмат фактаў і звестак, але не імкнуцца нікога гэтым здзівіць. Навука цікавіць іх таксама, як добрае віно і добрая кухня.

*(працяг у наступным нумары)*

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ
### (15)

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33-36, 38-44 н-рах)*

Некалькі вясельных песняў мы ўжо друкавалі ў пачатку гэтага цыкла. Але, вось, Надзеі Руско успомніліся чарговыя.

* * *

Ні быці, ні быці мне
у Божым храмі.
Ні стаяці мне пад ванцом.
Ні абручуса я персцёнком,
ні назавеш мане жаною.
А можэ буду у Божым храмі
стаяці пад ванцом
і абручуса я персцёнком,
но не з табою дарагі.

* * *

Стаіт Ганначка в канцэ столічка,
каравайначок просіт:
Каравайначкі, мае зорачкі,
выпеце і закусеце.
Самы знаеце, што я замуж іду.
Сама ні знаю, што за доленька будзе.
А як якая доля ліхая,
то ніхай плывэ за вадою.

* * *

Сад я садзіла,
сад палівала.
Судзі мане Божэ,
каго я кахала.
Каго я любіла,
в людзі пусціла.
Каго не знала,
з тым жыці стала.
Я скакала, драпацела,
за старого замуж ні хацела.
Бо у старого барада, барада.
А я сама малада, малада!

**Запісаў ПЁТР БАЙКО**

### ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. змалочаныя сцёблы, 3. адна з геаграфічных каардынат, 5. кароткая аповесць, 7. разрад у школе, 9. татарскае войска, 10. укляя, 11. валакністы белы матэрыял, 12. фігура ў шашках, 14. планета, 16. струнны інструмент, 17. вугальны басейн між Дняпром і Донам.

**Вертыкальна:** 1. старажытнагрэчаскі драматург, 2. ілжа, 3. прылада для пракалвання дзірак, 4. старажытны горад непадалёк ад Мадрыда, 6. праца вёсламі, 8. стан адукацыі грамадскасці, 9. шэраг арак, 11. даўняя назва скандынаваў, 13. горад на поўдні Індыі, 14. упэўненасць, перакананне, 15. савет прадстаўнікоў у Польшчы, Беларусі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 39 н-ра:**

**Гарызантальна:** збор, камар, апагей, трус, гонар, Іштван, коўзанка, чарот, накладка, Тамерлан, Нарва, палярнік, салома, казка, дыня, сірата, волат, Ніка.

**Вертыкальна:** калода, малако, Бярэзіна, Расін, карта, бераг, Ротэрдам, школьнік, Чыта, ромб, удар, нара, Андронік, аканом, вектар, калій, порах, ладан.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Лукаш Пацэвіч і Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# ЭПІГРАМЫ

### Маньяк

Слодыч-хмель хвалы любіў —
Як лікёр той, сам ён быў,
Ды на многа болей меў
Медалёў,
Бо лгаць умеў!
Год застольных грамада,
Ваш прастольны тамада,
Вамі вытрыман быў, як
Пяцізорачны каньяк!

### Нетыповаму пацыенту

Парады доктара забыты
І ўчынак свінскі зноў зрабіў ты.
Аж, раз свіннёю ты застаўся,
То ў ветлячэбніцу звяртайся!

**Станіслаў Валодзька**

# У ЧАРЗЕ

У чарзе душна да ікаты,
Ды з дзвярыма і ўсмешка рыпнула:
Ой, напэўна, любяць каты
Прадаўшчыцу з аддзела рыбнага.
І з гайні фарцова-марцовае
Не адзін за ёй прытанцоўвае.
Кажуць жа спрадвеку:
Ад рыбы
Падымаецца нешта дыбы...

**Рыгор Барадулін**

# СЕНТЭНЦЫІ

Дурноту шапкаю не накрыеш.

* * *

Бясконцасць — дарога Бога.

* * *

Маўчанне —
гэта крык астылых вуснаў.

* * *

У пастцы жэст добрай волі,
што кропля вады
для перасохлых вуснаў.

* * *

Праўдзівых тостаў не ўзнімаюць.

**Барыс Руско**

# НІЎКА

ВЫСВЕТЛІЛІ, ШТО ПРЫВЕЗЛІ Ў ТОЙ ЦЫСТЭРНЕ?
В-В-В-ВЫС-ВЕТ-ЛІ-Л-Л-ЛІ...

Малюнак М. Усціновіча

## ЯК ЯНО ЁСЦЬ

*Казачка*

Васіліса, калі яе ўкраў Кашчэй Бессмяротны, дужа ўзрадавалася. Яе не палохаў ягоны шчарбаты рот і лысая, як калена, галава.

Кашчэй Бессмяротны займаў вялікую пасаду, меў утульны гарадскі замак, дзяржаўнага і ўласнага каня, казённую загарадную рэзідэнцыю.

На ўсе так званыя балі-маскарады яны хадзілі разам. А там была ўся вышакасвецкая і дзяржаўная знаць: Змеі-Гарынычы, Тыгры, Ільвы і іншыя чыноўныя асобы. Былі яны са сваімі састарэлымі Пантэрамі, Кошкамі, Гадзюкамі, Жабамі. Першыя — фліртавалі з Васілісай, другія — пачорнаму зайздросцілі ёй і перамывалі яе костачкі.

Ну, якая жанчына адмовіцца ад такой увагі да сваёй асобы!

Штогод Васіліса з Кашчэем Бессмяротным ездзіла ў госці да Чарнамора, а то і за мяжу.

Васіліса была разумная жанчына, таму не верыла ў даўгавечнасць пачуцця Кашчэя Бессмяротнага. Яна добра ведала пра шабашы старога гулякі з ведзьмамі, але не зважала на іх. Яна прымала жыццё, як яно ёсць.

Васіліса час ад часу тэлефанавала Добраму Малойцу і клікала яго да сябе, але пры гэтым і слухаць не хацела пра тое, каб пакінуць старога пня і пайсці жыць у інтэрнат да Малойца.

Нездарма ж яна была Васілісай Прамудрай.

**Іосіф Палубятка**

# Смех у санаторыі

Сяржант выстраіў роту на казарменнай плошчы.

— Чаму рота не стаіць роўна?

— Бо зямля крывая, — адказвае нехта з шарэнгі.

— Хто гэта сказаў?!

— Капернік, — адказвае той самы.

— Радавы Капернік, крок наперад!

— Ужо памёр!

— Дык чаму ніхто пра гэта не даладжыў?!

* * *

У Лондан прыехаў чужаземец:

— Ці тут заўсёды такі туман? — пытае прахожага.

— Не ведаю, жыву тут толькі 40 гадоў.

* * *

— Мар'ян, у мяне да цябе вялікая просьба: пазыч мільён злотых.

— Прыкра мне, але не магу, бо столькі не маю.

— Дык хаця б сто тысяч.

— Столькі не маю ахвоты табе пазычаць.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Ці гэта праўда, што твая сястра ўжо ўмее варыць?

— Праўда. Варыць яна ўмее, толькі немагчыма гэта есці.

* * *

У краме:

— Што вы параілі б купіць у падарак пачынаючаму літаратару? — звяртаецца пакупнік да прадаўшчыцы.

— Маем вельмі эстэтычныя сметніцы.

* * *

У судзе:

— Ці абвінавачаны ўдарыў суседа ў твар два разы? — пытаецца суддзя.

— Так.

— І сусед ужо не падняўся?

— Пасля майго ўдару не меў права.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Аднойчы ўдзельнічаў я ў пахаванні, калі ад труны адпала дно...

— І што, пакойнік выпаў?

– Не, прытрымаўся накрыўкі.

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**

# Радзімка

Іван ды Мар'я — людзі маладыя. Толькі тры гады, як пажаніліся. З дзецьмі вырашылі не спяшацца. Думалі: пажывём трошкі для сябе, а потым ужо... Калі ж здалося, што гэтае „потым" ужо надышло, дык нешта не атрымалася...

Засумаваў Іван. Не весялілася і Мар'я. Няўтульна ёй стала ва ўласнай кватэры. Усё часцей пачала знікаць кудысьці жанчына. Усё радзей бачыў яе дома Іван, калі вяртаўся з работы. Не падабалася яму ўсё гэта. Але ж і лаяцца з жонкай не хацеў. Ведаў: гэтым не дапаможаш. Трэба іншае штосьці шукаць, каб прывязаць Мар'ю да хаты.

Выйсце знайшлося нечакана. Вярнулася аднойчы Мар'я дадому позна, а Іван не спіць, узбуджаны нейкі.

— Што з табой? Чаму не спіш? Ці здарылася што?

— Нічога...

— І ўсё ж?..

— Ды сяброўка тут твая была. Прасядзела цэлы вечар, цябе чакала. Толькі пайшла.

— А каторая?

— Ды для мяне ўсе твае сяброўкі на адзін твар.

— Апішы, як выглядала

— Жанчына, як жанчына: гадоў дваццаць пяць, бландзінка.

— І ўсё?

— І ўсё...

— Няўжо не заўважыў асаблівых прыкмет?

— Заўважыў адну.

— Якую?

— У яе такая ружовенькая радзімка... на бядры...

З таго часу жонка заўжды сустракала свайго Івана з работы на парозе кватэры. І, зразумела, з дому — нікуды!

**Мікола Тонкавіч**




Мал. М. Сеўлюка




Даражэнькая Сэрцайка! Ты ўсё абараняеш баб. Мо ты і само — баба?! Табе ніколі не дагодзіш, заўсёды — мужык кепскі. А то ў яго такі інструмент, а то гэтакі. А то замалы, а то завялікі, а то замяккі, а то зацвёрды. А то замала бабу забаўляе, а то і занадта доўга — глядзі толькі, каб не самлела. А то не ўмее пяшчотамі абдорваць, а то адразу прыступае да дзела, хоць баба пра тое яшчэ і падумаць не паспела.

А што, мо няпраўду кажу?! Усе мае сябры злосць на цябе маюць. Аплявала ты нас, то аплявала! Калі б ты было мужчынам, то само ведала б, што да чаго. Кожны хацеў бы быць прыгожы і статны, каб, толькі глянуўшы на яго, баба ад радасці якатала. А пасля ўсяго, каб да работы была ахвочая.

А трэба жыць з тым, што нам прырода дала, і нікуды ад гэтага не падзенешся.

Думаеш, бабы дык ужо ўсе ідэальныя?! Ой, не знаеш ты іх — не ведаеш. І гэта яшчэ раз мяне пераконвае, што Сэрцайка — баба. А вось, вазьмі. Сустрэў я нядаўна адну такую, як убачыў — слаба зрабілася. Сэрца зашчымела. А тады нешта кальнула ў яго. І я ўжо ведаў: закахаўся. Дзяўчына — як з байкі. Прынцэса, чарадзейка. Ну, не вытрымаць — такая прыгожая. Дальбог, не была яна першая, якая прыглянулася мне. Бачыў я розных — прыгажэйшых і брыдчэйшых, малых і вялікіх, бландзінак і брунетак, але такой яшчэ не было. Была як анёлак — прыгожая і далікатная. І я страціў галаву.

Цэлых два тыдні я патраціў, каб заварыжыць дзяўчыну. Хадзіў навокал яе, як ля нейкага крышталю, баючыся дакрануцца. Ужо ўяўляў сабе бязмежную асалоду, якой буду раскашавацца, калі ўжо апынуся з ёю ў пасцелі. Марыў пра гэта самотнымі начамі.

І вось настаў той доўгачаканы час. Яна аддалася мне спакойна, быццам бы толькі гэтага і чакала. Я ўзяўся за яе і... бачу, што нешта не ўваходзіць. Але ж немагчыма, думаю, яна ж была ўжо замужам. Ізноў прабую — нічога. Тады давай яе мацаць і прыглядацца. А ў яе, уяві сабе, даражэнькае, усё гэта ўстройства не ўздоўж, а ўпоперак. А Божачкі, што ж тут рабіць, як кахацца?! Я ж са сваім даволі-такі нічога сабе інструментам не ўлезу! Тыцкаў я тыцкаў, але ніякай прыемнасці не адчуў. Наадварот, было мне прыкра, бо нават і скончыць не патрапіў.

Я ўпэўнены, што гэта была яе віна, а не мая, хаця яна дала мне зразумець, што я, бадай, хворы, імпатэнт. А ў мяне, дальбог, ніколі дагэтуль такое не здарылася.

Ось вазьмі цяпер і смейся. А табе здаецца, што заўсёды мужык вінаваты. Хлопцы казалі, што таксама ім рознае траплялася: то зацесна, то засвабодна. А мне, бачыш, папярочная трапілася. Кажу табе, Сэрцайка: найважнейшая — гэта гармонія. Пакуль не паспытаеш — не жаніся.

**Макар**

Ой, Макар, Макар! Ну, што ты брат, на баб так напаў! Пэўна , што гармонія найважнейшая. Кожны павінен шукаць партнёра па сабе. Праўда, тваёй апошняй дзяўчыне нялёгка будзе знайсці адпаведнага партнёра з яе кшталтамі, але ж ёсць мужыкі і зусім амаль без нічога, а да баб лезуць.

**Сэрцайка**